

Штодзённая нармальнасць → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




За Бобрай → 9


http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 04 (2959) Год LVIII

Беласток, 27 студзеня 2013 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Вялікае калядаванне ў Гайнаўцы

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай пачалі арганізавацца яшчэ ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя, а месцам, у якім пачалі спатыкацца дашкольнікі і школьнікі Гайнаўскага павета, каб славіць Хрыстовае Нараджэнне, быў Гайнаўскі белліцэй. Паколькі калядаванне па дамах дзетак і моладзі на Гайнаўшчыне пачало абмяжоўвацца, тадышні старшыня гайнаўскага гуртка БГКТ Міхал Голуб запрапанаваў наладзіць ім калядаванне на сцэне, каб ангажаваць іх да развучвання калядак. Спачатку юныя калядоўшчыкі выступалі ў актавай зале, а пасля, калі мерапрыемства разраслося — у спартыўнай зале белліцэя. У арганізаванне калядавання моцна ангажаваўся дырэктар белліцэя Яўген Сачко. Дзесяць гадоў таму памяняліся арганізатары мерапрыемства і зараз ладзіць яго Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы разам з Гайнаўскім домам культуры, які і раней быў суарганізатарам, Аб'яднаннем «Любіцелі царкоўнай музыкі» з Гайнаўкі і іншымі арганізацыямі. Мерапрыемства разраслося па колькасці ўдзельнікаў конкурсных слуханняў, паколькі сталі выступаць пеўчыя мясцовых прыходаў і ўдзельнікі вакальных калектываў. Павысіўся прытым мастацкі ўзровень выконваных калядак. Калі сталі прыязджаць калядніκі з Рэспублікі Беларусь, а нават з Украіны, мерапрыемства стала лічыцца міжнародным аглядам.



«Званочкі» з Гайнаўскага дома культуры



«Лянок» з Непублічнага прадшколля № 1 імя св. дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім

З 10 па 14 студзеня ўдала прайшлі „Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай — 2013», у якіх прыняло ўдзел ажно больш за 600 калядоўшчыкаў з 33 калядуючых груп.

— У час Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай мы перш за ўсё славім Хрыстовае Нараджэнне і супольна радуемся з нагоды гэтай падзеі, але таксама падтрымліваем мясцовую традыцыю. У час калядавання адбываецца інтэграцыя мясцовага насельніцтва. У час сёлетняга калядавання відаць сувязь паміж трыма пакаленнямі. Здараецца, што ў паасобных групах калядуюць дзеткі, іх бацькі і бабулі. У гэтым годзе выступіць больш дарослых удзельнікаў, бо апрача калядоўшчыкаў з Гайнаўскага і Бельскага паветаў прыбудуць таксама каляднікі з Сямятыцкага павета. Мелі таксама прыехаць калядоўшчыкі з Пружан, з Рэспублікі Беларусь, але не атрымалі візаў, — сказаў протаіерэй Павел Стэрлінгаў, дырэктар Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы, які кіруе арганізаваннем калядавання на сцэне. У мінулым рабіў гэта ў ГДК протаіерэй Славамір Хвойка, які зараз ладзіць калядаванне ў Сямятычах.

Конкурсныя выступы і гала-канцэрт распачаліся ад калядавання дашкольнікаў і наймалодшых вучняў. Тады кожнага дня ў канцэртнай зале ГДК збіралася найбольш людзей. Прыгожа і з дзіцячай шчырасцю калядавалі дзеткі з гайнаўскіх і бельскіх садкоў і з Непублічнай школы ў Арэшкаве. У групе дашкольнікаў вельмі ўдала выступіў беларускі калектыў, якога поўнае названне — Беларускі калектыў «Лянок» Непублічнага прадшколля № 1 імя св. дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім.

— Ад пачатку гэтага школьнага года дзейнічае ў нашым прадшколлі беларускі калектыў. Нашы дзеткі і раней спявалі беларускія песні. Рашыліся мы заснаваць калектыў, каб падрабязна знаёміць дзетак з беларускай культурай і нашымі традыцыямі. Нашы дзеткі апрача песень вывучаюць таксама беларускія вершыкі. Рэалізуем гэта ў рамках Праекта рэгіянальнай адукацыі «Карані малога падляшаніна», — расказала Марта Зінкевіч, настаўніца музыкі і каардынатар праекта, які рэалізуе супольна з настаўніцай Іааннай Хількевіч.

— Рашыліся мы на названне «Лянок», бо нашы дзеткі добра пазнаёміліся з апрацоўкай ільну, развучвалі вершыкі і слухалі расказаў наконт вырабу палатна і вопраткі, — дабавіла настаўніца Іаанна Хількевіч, якая на гайнаўскі агляд прыехала таксама як музычны апякун бельскіх беларускіх калектываў «Спадчына» з белліцэя і «Вянок» з «тройкі».

— Мае дзеткі з калектыву «Званочкі» Гайнаўскага дома культуры калядуюць на сцэне штогод і робяць гэта вельмі ахвотна. Калядуюць таксама дома, у сваіх сем'ях і гэта мае вялікае значэнне для захавання нашых традыцый. Шкада, што якраз цяпер каля дзесяці дзетак хварэе і не маглі сёння выступіць, — заявіла апякун «Званочкаў» Вера Масайла і пайшла пераапранацца, бо хутка меў выйсці на сцэну калектыў «Рэха пушчы», таксама з ГДК, у якім спадарыня Вера спявае.

— Мы ў галоўным выступаем з беларускім свецкім рэпертуарам і прапагандуем нашую культуру. Штогод спяваем калядкі, каб падтрымліваць нашую праваслаўную традыцыю і ўводзіць публіку ў радасны духоўны настрой. У нашым выпадку вельмі важнае, каб супрацьстаяць асіміляцыі і ў гэтым плане спяванне калядак гэта таксама важная справа, — гаварыў харыст «Рэха пушчы» Аляксей Харкевіч.

— Калядаванне са сцэны гэта падтрымліванне нашай традыцыі, якую выпрацоўвалі нашы продкі. Тут, у Гайнаўскім доме культуры, дзеткі і моладзь могуць пачуць даўнія калядкі, з якімі сустракаюцца першы раз, і калядкі апрацаваныя па-сучаснаму і гэта мае таксама вялікае адукацыйнае значэнне. Цяпер, калі ў Гайнаўцы штораз менш дзетак і моладзі калядуе, сабраныя ў доме культуры, славячы Божае Нараджэнне, могуць супольна радавацца ў святочныя вечары, — сказаў Дам'ян Маркевіч з Гайнаўскага белліцэя, які таксама выступіў на сцэне з моладдзю. Яго сяброўкі і сябры са «Знічкі» прыгожа заспявалі праваслаўныя калядкі — абавязковы складнік рэпертуару калектыву.

Штогод на гайнаўскае калядаванне прыязджаюць бельскія белліцэісткі і белгімназісты. Выступілі яны на высокім мастацкім узроўні і, так як «Знічка», захапілі публіку.

— Трэба спяваць калядкі і славіць Бога, каб і малодшыя за нас не забылі аб традыцыі. Мы таксама калядуем у сёлах нашых продкаў, у Тапчыкалах, Кленіках, Дубне, Орлі і Міклашах, дзе калядуюць яшчэ мясцовыя дзеткі і моладзь, — заявілі бельскія белліцэісткі Аня Гуль, Патрыцыя Супронюк, Аляксандра Варшыцкая і Эвеліна Добаш з калектыву «Спадчына».

Вакальны калектыў дзейнічае ў Бельскім белліцэі здаўна і калі вёў яго Сяргей Лукашук, былы дырэктар БДК, называўся ён «Дзявочыя ноткі». Зараз калі займаецца з ім настаўніца музыкі Іаанна Хількевіч, вучаніцы прынялі новую назву «Спадчына».

— Названне «Спадчына» абазначае вяртане да беларускіх традыцый і культуры, якія хочам у песенным рэпертуары запрэзентаваць малодшым, — сказалі белліцэісткі.

Настаўніца Іаанна Хількевіч таксама звяртала ўвагу на патрэбу вяртання да традыцыі. Яе іншы калектыў, а менавіта «Вянок» з бельскай «тройкі», таксама заспяваў у Гайнаўцы калядкі на высокім мастацкім узроўні.

— Мы прыехалі сюды, каб славіць

працяг ☞ 11





# Пад сваім небам...

У Гародні прайшла яшчэ адна прэзентацыя кнігі. Увогуле, для горада над Нёманам гэта з'ява нярэдкая. Прэзентацыі тут адбываюцца са стабільнай перыядычнасцю. Толькі вось беларускамоўныя кнігі ў нашай краіне з большага прэзентуюць без удзелу дзяржавы. З аднаго боку гэта крыўдна, недарэчна і неразумела. Але гэта чарговы раз доказвае, што ў Беларусі, неўзіраючы ні на ціск, ні на складанасці ў працы, грамадзянская супольнасць існуе. Яна ёсць і дзеіць, часамі вельмі актыўна і эфектыўна. І даказвае сваёй дзейнасцю, што яна здольная не толькі захоўваць у складаных умовах беларускасць ва ўсіх яе праявах, але можа яе памнажаць, прапагандаваць, славіць і ўзвялічваць.

На гэты раз у старадаўняй Гародні гаварылі пра кнігу „Справа Бяляцкага". Аўтар кнігі Валер Каліноўскі асабіста расказаў прысутным пра гісторыю напісання. Герой жа гэтага твора, кіраўнік пазбаўленага ўладамі рэгістрацыі Праваабарончага цэнтра „Вясна" ўжо больш года знаходзіцца за кратамі. За гэты час міжнародная супольнасць неаднаразова адзначыла ўклад Алеся Бяляцкага ў справу абароны правоў чалавека. Беларускі праваабаронца з'яўляецца ганаровым сябрам некалькіх еўрапейскіх гарадоў, лаўрэатам многіх прэстыжных прэмій. У мінулым годзе ўвайшоў у першую тройку прэтэндэнтаў на Нобелеўскую прэмію. На працягу ўсяго прайшоўшага тэрміну зняволення і шматлікія беларусы неаднаразова выказвалі свае адносіны да гэтай асобы. І вось зараз выйшла кніга, якая не толькі асвятляе ходу крымінальнай справы над Алесем Бяляцкім, не толькі стараецца разабрацца ў прычынах, не толькі паказвае свайго героя з розных бакоў, але і наводзіць на глыбокія развагі пра існую сітуацыю і людзей.

Аўтар кнігі таксама расказаў пра сваю перапіску са зняволеным і зачытаў сярод іншых адну фразу, якая вельмі скалыхнула і навяла на роздум. Алесь Бяляцкі ў адным сваім лісце піша з-за крат: „Дзякаваць Богу, што ў Беларусі няма Сібіры, Калымы, а ў бабруйскай калоніі тое ж самае надвор'е, што ўва ўсёй Беларусі, тое ж неба. І лісты прыходзяць хутка: дзень-два і ўжо чытаеш".

Думаю, шмат хто са зняволеных думае гэтак жа. І не толькі апазіцыянеры. Бо і зняволены бізнесовец, які не ўмешваўся ў палітыку і ганарыўся тым, што не губляе часу бессэнсоўна, і зняволены чыноўнік, якому зусім нядаўна было напляваць чыноўнікам якой краіны быць, і зняволены рабочы або калгаснік, якія казалі, што ім усё адно які сцяг вісіць на Доме ўрада, абы заробкі плацілі своечасова, і зняволены міліцыянт, які разганяў акцыі апазіцыі, і кожны іншы зняволены, на сабе адчулі, што ім нават там за кратамі крыху лепш, чым магло б быць, каб такія людзі як Алесь Бяляцкі не адстаялі Незалежнасці. І зараз яны хоць не ў самым лепшым месцы, але ж не ў Сібіры і не на Калыме, а ў сябе, на радзіме, дзе сваё неба... І лісты прыходзяць за дзень-другі.

Ды і тыя, хто на волі, таксама маглі б задумацца пра тое, што яны многім абавязаны такім людзям як Алесь Бяляцкі. Дзякуючы Незалежнасці, за якую той змагаўся, беларускім міліцыянтам не прыйшлося гінуць, прыкладам, у Чачні. Не гінулі там і дзеці рабочых ды калгаснікаў, якіх цяпер узялі служыць не ў савецкае войска, і не ў расейскае, а ў сваё, беларускае. Дзякуючы здабытай такімі людзьмі як Бяляцкі Незалежнасці, тыя дзяржаўныя чыноўнікі, якія маглі толькі марыць дарасці да крамлёўскіх лакеяў, сталі самастойнымі дзяржаўнымі дзеячамі, пасламі, дыпламатамі, міністрамі... У тым ліку і міністрамі сілавых структур.

Хто б яны былі без гэтай Незалежнасці? Ці думалі яны пра гэта, калі затрымлівалі, арыштоўвалі, раскручвалі справу супраць Алеся Бяляцкага? Ці ўспомнілі яны пра гэта, калі накіроўвалі матэрыялы ў суд, зачытвалі прысуд, этапавалі патрыёта і праваабаронцу ў калонію? Ці думаюць яны пра гэта зараз, калі ідуць на працу ў беларускую ўстанову, атрымліваюць заробак у беларускіх грашах і карыстаюцца ўсімі мажлівасцямі, якія штодзённа, і нават штохвілінна дае чалавеку яго ўласная незалежная дзяржава?

Ці думаюць яны пра гэта, калі глядзяць на неба, якое над іх галовамі такое ж самае, як і над бабруйскай калоніяй?..

**Віктар САЗОНАЎ**



# Праўда пра найсапраўдную праўду

Як берэтам кінуць ад беларускай мяжы, у ваколіцы Нарвы паявілася некалькі воўчых ватаг. Не сноўдаюцца галодныя, таму не скрыгічуць зубамі ад голаду. Я прынамсі не чуў. Яны сытыя тым, што ўпалююць у лесе. Заглянулі, праўда, раз ці два разы ў запушчаны куратнік, напалі нават на адно пакінутае там яйка, а апошняй у ваколіцы карове пашчупалі для жарту азадак, ды гэта ўсе іхнія псоты. Наогул пазбягаюць людзей, не баламуцяць нават знікаючай папуляцыі Чырвоных Шапачак у школьным узросце. Дарэчы, тыя, асвоеныя з воўчым быццам бы позіркам прэм'ера Туска, які расказвае ў тэлебачанні казкі на добры сон, ваўкоў перасталі баяцца. Аднак, незалежна ад узорных паводзін, нарваўскія ваўкі не падабаюцца Аляксандру Лукашэнку. На апошняй сустрэчы з журналістамі з Беларусі і іншых навакольных краін даў гэтаму выраз сказаўшы, што **„вакол Беларусі ходзяць і скрыгічуць зубамі зграі галодных ваўкоў"**. Як вядома, прэзідэнт ніколі не маніць. Ну можа крышку мінаецца з праўдай. А гэта можа прытрапіцца кожнаму. Толькі што большасці людзей здараецца гэта рэдка і найчасцей мімавольна, затое Лукашэнку звычайна. Працягваючы сваю атаку на ваўкоў, абвінаваціў іх у аказванні **„ўплыву на некаторых людзей, якія крычаць: _палітвязні!"_**. Трэба дадумвацца, што той крык з'яўляецца голасам супрацьву абаронцаў усіх зачыненых у лагерах палітычных працўнікаў Аляксандра Лукашэнкі. — Ды якая тут гаворка пра палітвязняў, — дзіваваўся прэзідэнт, — калі ў беларускім крымінальным кодэксе „няма ніякага *палітычнага артыкула*"?! Бо і сапраўды няма. Значыць, калі няма артыкула, дык не можа быць і палітвязняў! Праўда, гучыць лагічна? Толькі што палітвязні ў Беларусі ёсць. Дык якая гэта логіка? Распусная!

Як адносяцца да выказванняў прэзідэнта самі ваўкі, цяжка сказаць. Няшмат пра іх вядома апрача таго, што хочуць захаваць сваё інкогніта. І далёка не з-за канспірацыі. Мой сусед, ляснік-пенсіянер, даследаваў справу грунтоўна і кажа, што гэта не воўчыя дысідэнты збеглыя з Беларусі, ані тым больш абучаныя ў мастацтве дыверсіі асобені, падрыхтаваныя да інфільтрацыі беларускага памежжа, а спадчыннікі ідэі ўнутранай іміграцыі, якой пачынальнікам быў Генры Дэвід Тора. Гэты XIX-вечны амерыканскі філосаф, крытыкуючы празмерны экспансіянізм дзяржавы, абмяжоўваючы на яго думку натуральныя правы асобы на свабоду, даў асабісты прыклад сваіх поглядаў і, кінуўшы цывілізацыйныя выгады, стаў жыць здалёк ад людзей і іх распуснай логікі ў лясной глушы. Свой досвед з таго перыяду жыцця апісаў пазе ў творы „Уолдэн, ці Жыццё ў лесе". І ўжо толькі тое, што абвінавачаныя прэзідэнтам Лукашэнкам ваўкі ідуць уолдэнскім следам, даводзіць іх глыбокай прывязанасці да польскага лесу. Ані ім у галовах лакоміцца на беларускія палеткі і лясы — зашмат у іх калючых дратоў. І гэта ўся праўда аб іх.

А з праўдай мае турботу не толькі Аляксандр Лукашэнка. Бо каб не маніць, для шмат каго з людзей сама праўда гэта замала, каб сказаць праўду. Гэтак ёсць у Беларусі, так ёсць і ў Польшчы. Таму вышэйшай ступенню праўды ў польскай мове ёсць „найпраўдзіўшая праўда". А ў сваю чаргу з ёю ёсць так як з вачыма Дональда Туска, у якіх Яраслаў Качынскі дагледзеўся калісьці воўчага позірку — нікога яны не хвалявалі і не хвалююць. Усё ж спрэчка, якая разгарэлася паміж сабранымі *ad hoc* абаронцамі і працўнікамі гэтай палітычнай інсінуацыі, набралася маштабу медыйнай грамадзянскай вайны. Здаецца, прычына трывіяльная — вочы польскага прэм'ера — ды дастаткова, каб вывесці з нацыянальнага арсенала найбольшыя гарматы. Ды не з-за Тускавага вока выбухла вайна, ані за праўду, толькі з-за дагматычных рацый прымаючых удзел у ёй апанентаў. А тыя даскала даюць сабе рады без рацыянальных абгрунтаванняў і фактычных аргументаў. Хопяць эмоцыі падмацаваныя цытатамі з аўтарытэтаў — ад Яна Паўла ІІ пачынаючы, а канчаючы на Язэпе Пілсудскім і стаўленым накрыж, ад Маркса і Энгельса да Рамана Дмоўскага. Бо палітычны ці ідэалагічны дыспут у Польшчы як такі не існуе. Бо не пра звычайную, сціплую, ненавязваючуюся нікому праўду ідзе гаворка ў гэтай спрэчцы, а пра тую найпраўдзіўшую. Такую найлягчэй абмінуць. А нашто? А гэта ўжо ведаюць толькі тыя, што яе штораз больш нахабна абмінаюць.

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Культурная снегаўборка



Калі рыхтавалі мы гэты нумар «Нівы» да друку, перад беластоцкай ратушшу пачыналася акцыя-хепенінг грамадзянскай расчысткі горада ад снегу. З такой задумай выйшлі арганізацыі, згуртаваныя вакол «Вспультуры» (пісалі мы аб ёй тройчы), якія аб'ядналіся, каб дзейнічаць дзеля культуры, у тым ліку арганізоўваць разам культурныя мерапрыемствы і здабываць для іх грошы. Супольная снегаўборка гэта супрацiў апошнім рашэнням аб скарачэннях у бюджэце Беластока і самаўрадавага ваяводства на шэраг культурных праектаў, маючых ужо свой брэнд (або також «і»), служыўшых культурнай адукацыі. У заклiку да беластачан, запрашаючым да расчысткі снегу напісана: «Ці памятаеце, як дзякуючы ашчадносцям з расчысткі ўдалося сарганізаваць „Пазітыўныя вібрацыі — 2012" (музычны фестываль у Беластоку з удзелам зорак — М. Х.). У сувязі з крызісам, скарачэннямі ў культуры, і бясконцымі інвестыцыямі мы, як грамадскасць, павінны пачуваць сябе ў даўгу і падтрымаць горад пры снегаўборцы. Запрашаем усіх ахвотных, найлепш з уласнымі лапатамі (не трубуйцеся, будзем абменьвацца прыладамі працы) да супольнай расчысткі горада ад снегу. Снегаўборачная лапата не кусаецца. Беласток патрабуе Цябе! Паможаце?»

З прадпасылкі, на маю думку, тут не гаворка пра вынікі, якія можа прынесці тое, што ўбяром снег з гарадскіх вуліц (раней не было, дарэчы, вядома, ці будзе ён на іх залежвацца, а калі так, ці не апярэдзяць удзельнікаў акцыі гарадскія камунальшчыкі), а пра гучнае выказванне думкі на тэму не толькі адных скарачэнняў у культуры, але ўвогуле пра пытанне аб ролі, якую культурная палітыка іграе ў горадзе і рэгіёне, у тым ліку таксама культурная палітыка ў адносінах да нацыянальных меншасцей («Ніва» ці Беларускае аб'яднанне студэнтаў з'яўляюцца членамі «Вспультуры»). Чару горычы пералілі рашэнні Падляшскай управы, якія скарацілі шмат датацый у параўнанні да мінулагодніх. Такія прэстыжныя фестывалі як „Up To Date" (фестываль электроннай музыкі, Беласток), „Захор" (фестываль яўрэйскай культуры, Беласток), „Вертэп" (тэатральны фестываль; рэгіён паўночна-ўсходняй Беласточчыны) ці фолькавы фестываль у Чаромсе атрымалі амаль напалову менш грошай чым летась.

Рафал Гавел з „Тэатра Trzyrzecze" (сябра «Вспультуры») грымеў:

— Пачынаем збіраць подпісы пад петыцыяй прэм'еру, каб прыглядзеўся і ацаніў дзеянні лакальных палітыкаў. Нахабнасць мясцовых улад, фаварытызм і непатызм перакрочылі ў Беластоку ўсе магчымыя межы. Не забярэце нам нашай музыкі, тэатра — нашай культуры!

Сябры «Вспультуры» рашэнні аб скарачэннях датацый на культуру самаўрадавымі ўладамі ваяводства, а раней сталіцы Падляшша, называюць скандалам, кпінай, урэшце, што абабегла сацыяльныя сеткі ў інтэрнэце, «дзеяннямі шалёнага бухгалтара». Ва ўправе гэтыя вострыя словы гучаць у адрас галоўным чынам віцэ-маршалка па справах культуры Яцка Пярунка, які таксама выклікаў раздражненасць сваімі каментарамі да рашэнняў аб скарачэннях:

— Карэктур параблёных управай ваяводства не было шмат, зрабілі мы іх можа ў 20 працэнтах. Управа мела на гэта права, конкурсная камісія мае заданне нам падказваць, але таксама мы маем свае думкі і разважанні (...). Фактычна, вылучаецца ў гэтым падзеле горад Ломжа. (Яцак Пярунак быў выбраны ў самаўрадавых выбарах якраз з тэрыторыі былога Ломжынскага ваяводства — М. Х.).

У час апошняй сустрэчы «Вспультуры» яе ўдзельнікі рашылі, што запросяць Яцка Пярунка і, мабыць, маршалка Яраслава Дважанскага да публічнай дэбаты аб фінансаванні культуры. Мабыць, да таго часу, калі да яе дойдзе, са снегам стане лягчэй. Не толькі ў Беластоку, але і ў глыбінцы, у якую ўдасца даехаць — не толькі праз сумёты — з культурай.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Штодзённая «нармальнасць»

Мацей Халадоўскі: — Для сярэднага беларуса паляк гэта...?

Ірына Лапо: — Гэта «пан», «пан паляк» з Захаду. Бярэцца гэта з расійскага мышлення беларусаў, з іх рускамоўнасці і чытання расійскай літаратуры, дзе ўмацаваны вобраз «пана паляка». Можа ў Брэсце, у поясе Палесся, на Гродзеншчыне жыве памяць аб супольным мінулым. Глыбей, на ўсходзе Беларусі, маецца агульны расійскі вобраз паляка. Не бярэцца гэта з асабістых кантактаў, а ў вялікай ступені з перадач СМІ і якраз з літаратурных тэкстаў.

Наталля Русецкая: — А мне здаецца, што мае гэта гістарычнае абумоўленне. Кіруючая эліта ў Беларусі была заўжды чужая. Гэта быў паляк або расіянін. І гэта засталося ў паўсюдным гістарычным мышленні. Беларускі народ гэта перш за ўсё сяляне. Так, як гэта ёсць у гэтай частцы сярэдняга пояса Еўропы. Так маюць літоўцы ці латышы. Мы гэта сяляне, а кіруючыя намі гэта «паны». І так засталося.




**Ірына Лапо** (справа) і **Наталля Русецкая** з'яўляюцца навуковымі супрацоўніцамі Універсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне. Ірына Лапо народжаная ў Магілёве, тэатразнаўца, мовавед і транслятарка. Наталля Русецкая — з Мінска, народжаная ў Расіі, займаецца літаратуразнаўствам, паэтэса і перакладчыца.

## Размова з Ірынай Лапо і Наталляй Русецкай

Ірына Лапо: — Засталося, і мае моцную падтрымку з боку пальшчызны, перш за ўсё з-за формы звароту «пані», «пан». Гэта адначасова пускае ў рух гістарычны пункт гледжання. Такія рытарычныя фігуры не даюць забыцца аб мінулым, у тым ліку аб сацыяльных падзелах.

**— Польшча для Беларусі гэта добры сусед?**

Ірына Лапо: — Гэта залежыць для каго: для кіруючых, інтэлектуалаў, звычайных людзей?

**— Для інтэлектуалаў?**

Ірына Лапо: — Для інтэлектуалаў гэта без сумнення атракцыйны партнёр, хаця б таму, што падтрымлівае адраджэнне беларускай мовы, літаратурных ці тэатральных пошукаў. З'яўляецца зычлівым і прыцягальным партнёрам.

**— Для беларускай улады?**

Ірына Лапо: — Для ўлады гэта турбота. Польшча прадстаўляе еўрапейскую палітыку, няспрыяльную ўладзе ў Беларусі і гэтыя стасункі непрыязныя, напружаныя. Адчуваецца гэта перш за ўсё праз сродкі масавай інфармацыі. Для простых людзей Польшча і палякі ў прынцыпе непрысутныя. Гэта нейкая абстрактнасць, нейкая Еўропа, якая задалёка.

Наталля Русецкая: — Беларусы надалей сядзяць у сваім куце і нідзе не намерваюцца выбірацца. Найстарэйшае пакаленне беларусаў успрымае Польшчу як ворага.

Ірына Лапо: — Ну што ты — як ворага?

Наталля Русецкая: — Зразумела. Спытайся каго хочаш сярод людзей таго пакалення.

**— Гэта таму, што паляк асацыюецца з акупантам? Расіянін павінен таксама ж?**

Наталля Русецкая: — У Беларусі, сярод старэйшага пакалення, пануе мышленне: усё што заходняе гэта вораг, што ўсходняе — прыяцель...

Ірына Лапо: — ... Гэта парэшткі савецкай прапаганды.

Наталля Русецкая: — Прапаганды, якая надалей сцірае беларускія мазгі. Калі толькі паявіцца ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі матэрыял пра Польшчу, дык амаль заўжды з варожым стаўленнем, што гэта: чужое, далёкае. Гэта нават засталося ў падзеле: блізкае і далёкае замежжа. Казахстан, напрыклад, гэта ў нас блізкае замежжа, а Польшча гэта ўжо далёкае.

**— Як беларусы ўспрымаюць польскія рэсентыменты звязаныя з г.зв. крэсамі і ўвогуле размахванне сёння палякамі паняццем крэсы ў дачыненні да заходняй Беларусі?**

Наталля Русецкая: — Кепска. Вельмі кепска. Нават паяўляецца ў нашых літаратурных тэкстах, што палякам «сніцца вяртанне ў свае кватэры ў Гродне і Лідзе» (Славамір Адамовіч). Палякі ахвотна карыстаюцца гэтым паняццем не толькі ў гутарковай мове, але хаця б і ў публікацыях тыпу альбомы аб Гродне, Вільні, Львове пад загалоўкам «Крэсы». Калі б у Расіі паказаўся такі альбом пад загалоўкам «Северо-Западный край» то ўсе ў Беларусі адным голасам аблаялі б гэтых «маскалёў». Паняцце «крэсы» тут адэкватнае. Расіяне не ўжываюць цяпер такіх тэрмінаў.

Ірына Лапо: — Не маюць такіх рэсентыментаў (смех)...

**— Значыць, гэта абразліва для беларуса, калі паляк кажа: «Еду на крэсы», выбіраючыся на экскурсію ў Гродна, Ліду ці Брэст?**

Наталля Русецкая: — Абразлівае можа не. Ды, аднак, непрыемнае.

Ірына Лапо: — А мне якраз здаецца, што прыемнае. Гэта такая спасылка на супольнае мінулае, на тое, што беларуская зямля для палякаў таксама штосьці значыць. Агулам гэта нават мілае. Я штодзень не сустракалася з нейкай агрэсіўнай рэакцыяй паасобных беларусаў на тэрмін «крэсы».

**— Ці ў Беларусі ёсць свядомасць, што ў Польшчы пражывае беларуская нацыянальная меншасць?**

Ірына Лапо: — З пункту гледжання Магілёва ці Брэста, з якімі я была жыццёва звязана, я не мела паняцця, што такая меншасць жыве ў Польшчы. Гэтак было нават тады, калі я штудзіравала паланістыку ў Пецярбургу і пасля, калі рабіла дактарат у Любліне, пакуль не паявіліся побач пазнейшыя сябры з Беластока, якія мне аб гэтай меншасці расказалі і калі не пазнаёмілася з беларускім асяроддзем, якое мае кантакты з Беласточчынай. Усё гэта адбылося такой выпадковай дарогай. Генеральна ў Беларусі няма свядомасці, што ў Польшчы пражывае беларуская меншасць.

Наталля Русецкая: — Пануе ў нас мышленне, што калі жывеш у Польшчы — ты паляк. Нават цяпер, пасля гадоў жыцця тут, калі прыязджаю ў Мінск, знаёмыя бывала жартам кажуць: «О, прыехала наша полька», а сваякі пытаюцца: «Ну як там твае палякі?»

Ірына Лапо: — Мой брат любіць паўтараць, што прыстойныя беларусы жывуць у Канадзе.

Наталля Русецкая: — Аб беларускай меншасці ў Польшчы ведаюць вузкія колы інтэлігенцыі, аб тым, што ёсць тут Сакрат Яновіч ці Лявон Тарасэвіч, беларускія гісторыкі, пісьменнікі, артысты.

**— Вяртаючыся да паняцця «інтэлігент», для беларуса польскі інтэлігент гэта...?**

Наталля Русецкая: — Інтэлігенцыя гэта звышнацыянальная каста.

Ірына Лапо: — Не маем тут аднаго стэрэатыпу. Ёсць і напыхлівыя, і сціплыя, і багатыя, і бедныя, ветлівыя і не. Думаючы аб польскім інтэлігенце, маем перад вачыма канкрэтных асобы. Польскі інтэлігент гэта Ежы Гедройц. Гэта наш парыжскі «князь», сапраўдны польскі інтэлігент.

**— Гэты польскі інтэлігент, аднак адрозніваецца чымсьці ад беларускага інтэлігента?**

Наталля Русецкая: — Адрозненне асноўнае. У Польшчы інтэлігент заўсёды польскамоўны. Беларуская інтэлігенцыя заўсёды дзялілася, перш за ўсё на расійскую і беларускамоўную.

Ірына Лапо: — А мова заўжды пераадлюстроўваецца на мышленне. **Іныя вещи в ином языке не мыслятся** — сказала Марына Цвятаева. За моўным вобразам свету заўсёды стаяць нейкія адрозненні — светапоглядныя, ідэалагічныя, палітычныя. У Польшчы немагчыма ўявіць сабе, каб у роднай краіне не размаўляць на роднай мове, каб у тэатры ставілі п'есы на мове захопніка. Польскі інтэлігент ніколі не ставіў сабе пытанняў, якія ставіць перад сабою беларускі інтэлігент: у якой мове быць? А адказы могуць быць два.

**— Успомнілі вы аб тэатры, дык чаму так неахвотна ставяцца беларускамоўныя п'есы, беларускіх сучасных драматургаў?**

Ірына Лапо: — Адказ вельмі просты. Тэатр існуе ў моцнай сувязі з гледачом і з уявай зверху таго гледача. Цяжка ўявіць сабе залу поўную гледачоў, якія спецыяльна выбраліся на сучасную, ці нават не сучасную беларускую драму. Руская мова ў Беларусі больш зразумелая, свойская. Гаворыць на ёй дома, на вуліцы, ва ўстановах. Гэта мова штодзённага кантактавання. Тэатр ад гэтай штодзённай «нармальнасці» не можа адмовіцца, бо і чаму ж меў бы?

**— Але ж у вас ёсць знакамітыя драматургі: Павел Пражко, Мікалай Рудкоўскі ці Сяргей Кавалёў...**

Ірына Лапо: — Не, не! Перш за ўсё Павел Пражко і Мікалай Рудкоўскі пішуць па-руску. Пражко ў плыні г.зв. новай драмы, нават апярэджваючы гэтую плынь. Пішa драмы зусім наватарскія, у еўрапейскім маштабе. Не мусіць і не адчувае, аднак, патрэбы змагання з мовай, уключэння ў дыскусію пра мову. Пражко падслухоўвае рэчаіснасць. Гэта суперрэалізм. Прыслухоўваецца, як людзі гавораць, а гавораць жа ж не па-беларуску. Сяргей Кавалёў, які піша па-беларуску, меў якраз такую праблему, калі захацеў напісаць сучасную п'есу, бо на якую мову меў спасладца, каго падслухаць?

Наталля Русецкая: — Праблема заключаецца ў тым, што няма беларускай школы, функцыянуе яна ў Беларусі ў рускай мове. Дзіця ў нас узрастае на расійскіх узорах. Не маем таксама школы беларускага драмапісьменніцтва. Калі дзесьці, у нейкім інстытуце культуры, вядуцца майстар-класы драмы, дык выкладчыкі на ўступе прадбачваюць, што трэба іх пісаць па-руску, бо гэта прадасца ў Расіі. Адымаюць магчымасць выбару. Больш спроб пісання драм па-беларуску было дваццаць гадоў таму. У той час стварaліся нават коміксы па-беларуску.

Ірына Лапо: — Паўтараю, тэатр мае зваротную сувязь з гледачом. Па-беларуску найлепш пісаць вершы, бо могуць яны быць нават у стол. Паэзія гэта штосьці паміж мною і Богам. Такі сакрум. Можна пісаць прозу і здзяйсняць пошукі нейкага эксперыментальнага адкрывання. Драма без тэатра не існуе, а тэатр гэта глядач. Пісанне драмы ў стол гэта не варыянт. Драмай па-беларуску быў бы зацікаўлены пад адзін працэнт нашай інтэлігенцыі.

**— А чаму беларуская драматургія так цяжка прабіваецца на заходнія сцэны, асабліва польскія?**

Ірына Лапо: — Добрае пытанне. Якая? Пісаная беларускімі аўтарамі ці па-беларуску?

**— Беларускімі аўтарамі.**

Ірына Лапо: — Ну ўсё ж прабіваецца час ад часу. Калі ласка, вернемся да апошніх Тэатральных канфрантацый у Любліне. Нават сабе не ўяўлялі, як вельмі прысутны беларускі тэатр. У расійскай плыні. Была пастаўлена ў Пецярбурзе фотап'еса Паўла Пражкі з беларускімі краявідамі (гаворка пра п'есу Паўла Пражкі «Я вольны» — М. Х.). Гэта быў маскоўскі спектакль аснаваны на беларускім матэрыяле. Пражко карыстаецца беларускім варыянтам рускай мовы. Таму, дарэчы, яго драматургічная мова крыху адчужаная.

**— Дзякуем за размову.**

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

## У Кляшчэлях без таямніцы

Кляшчэлеўскі самаўрад прыняў цікавую форму перадачы інфармацыі жыхарам. Для гэтай мэты пачаў выдаваць „Інфармацыйны бюлетэнь". Першы нумар каляровага выдання трапіў да чытачоў на зломе ліпеня і жніўня 2011 года. На 22 старонках даведніка можна знайсці ўсю інфармацыю, якая тычылася мястэчка і гміны, пачаўшы ад бюджэту ды інвестыцыйных задач, а закончыўшы на навінках і аб'явах для сялян. У бюлетэні можна знайсці стаўкі падаткаў, колькі салэцтву прызначана грошай з салэцкага фонду, спартыўныя навінкі, інфармацыю аб арганізаваных культурных мерапрыемствах, паведамленні з жыцця школы і т.п. Адным словам — лакальная дошка аб'яў. Чарговыя два нумары былі выдадзены ў мінулым годзе. Варта адзначыць, што бюлетэні распаўсюджваюцца бясплатна ва ўсіх даступных месцах. З такой формай распаўсюду я спаткаўся ў Палічнай 21 снежня мінулага года ў час экуменічнай сустрэчы. Бурмістр Негярэвіч, уручаючы бабулькам зводку гмінных навін, сказала: „А пачытайце, бо тут і пра вас пішуць". А ў снежаньскім (святочным) нумары бурмістр павіншавала жыхароў горада і гміны (каталікоў і праваслаўных) з Калядамі і Новым годам. Такім чынам свежанькі нумар „Інфармацыйнага бюлетэня" з навагоднімі і святочнымі пажаданнямі своечасова трапіў пад стрэхі сялянскіх дамоў.

Кляшчэлеўская ініцыятыва, на маю думку, вартая перайманя, зважыўшы хоць бы на гэта, што кошт выдання не надта вялікі.

— Залежыць гэта, — канстатавала бурмістр, — ад аб'ёму, тыражу і фірмы, якая будзе выконваць паслугу. Мы намагаемся падшукаць таннейшую фірму. Нам бюлетэнь друкавала фірма ў Польшчы, а кошт аднаго экземпляра абышоўся... у 1,50 зл. Варта памятаць, што каляровае выданне даражэй абыходзіцца.

Але і так, мне здаецца, самаўраду апуха варта кажуха. Карысць маюць абодва бакі: гмінная адміністрацыя інфармуе аб сваіх дзеяннях, а лакальная грамадскасць, як арбітр, ацэньвае працу бурмістра і радных. Хіба што няма ім чым пахваліцца!..

**Уладзімір СІДАРУК**

## Малы памежны рух

12 снежня 2012 года ў Цэнтры ўсходніх даследаванняў пры Асяродку навуковых даследаванняў імя Войцеха Кентшынскага ў Ольштыне адбылася чарговая сустрэча, гэтым разам на тэму ролі Калінінграда ў польска-расійскіх стасунках у 2012 годзе. Прэзідэнт Ольштына Пётр Гжымовіч адзначыў узбуйненае зацікаўленне калінінградскіх турыстаў нашым рэгіёнам, што стала вынікам увядзення малога памежнага руху. Дадаў ён, што гэтая навінка з'яўляецца вялікім шанцам для фірм не толькі з Ольштына, але і з усяго ваяводства. Калінінград рыхтуецца да футбольнага чэмпіянату свету ў 2018 годзе, бо там мае праводзіць матчы адна з адборачных груп. Калінінград мала вядомы ў Польшчы, а гэта ж адзіны рэгіён Расіі, які мяжуе з Польшчай. Іншыя дакладчыкі гаварылі м.інш. пра перыёдыку, якая выходзіць у Калінінградзе.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# Праваслаўнае Раждажаство ў Падляшскай оперы

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

„З Раждажаством Хрыстовым" — так віталіся госці Падляшскай оперы вечарам 9 студзеня 2013 года. Менавіта тады свой чацвёрты дзесятак пачаў штогодні канцэрт праваслаўных калядак, арганізаваны па благаслаўленні мітрапаліта Савы. Як сказаў галоўны кіраўнік і апякун усіх дасюлешніх канцэртаў айцец Васіль Дубец, асноўная ідэя гэтага мерапрыемства ўзялася з унутранай патрэбы:

— Яшчэ пару дзесяткаў гадоў таму нашы калядкі былі невядомыя не толькі польскаму насельніцтву, але і многім прадстаўнікам праваслаўнай супольнасці, між іншым, Падляшша. Такім чынам у 1982 годзе ўладыка Сава вырашыў выйсці з каляднымі песнямі за царкоўныя муры. Самым аптымальным для іх месцам стала Беластоцкая філармонія. Пачаткі былі даволі сціплыя, але ініцыятыва хутка развівалася. Даволі шмат спевакоў прайшло праз беластоцкую сцэну на працягу звыш трыццаці апошніх гадоў.





Тое, што найглыбей упісалася ў памяць айца Васіля, гэта людзі, якія тут выступалі, іх дабрата, глыбокая духоўнасць, турбота пра старыя традыцыі дзядоў і прадзедаў:

— Дзякуючы ім, памяць пра нашу спадчыну перадаецца ў наступныя пакаленні. Пачынальнікі калядных канцэртаў, іх першыя ўдзельнікі выхавалі ўжо новае пакаленне, якое сёння праслаўляе нашу родную культуру. Між імі паўстала асаблівая сувязь, якая праяўляецца ў радасці супольнага прабывання і ўзаемнага зразумення. Яны без лішняй задумы гатовыя адказаць на пытанне кім яны ёсць, чаму ёсць, скуль паходзяць і куды ідуць. Гэтае асяроддзе сваім стаўленнем дало штуршок і іншым людзям, часта зусім не звязаным з праваслаўнай традыцыяй. Для прыкладу, — працягвае бацюшка, — калісь хор Беластоцкай філармоніі не дэклараваў свайго ўдзелу ў нашым мерапрыемстве. Сёння прафесіяналы з оперы ўвялі ў захапленне, мабыць, усю сабраную тут шматлікую публіку. Некалькі пакаленняў прайшло праз хор праваслаўнага духавенства, якое ўжо 31 год старанецца працягваць гэтую добрую справу.

Айцец Васіль прызнаецца, што паспеў ужо прывыкнуць да атмасферы старой, добрай Беластоцкай філармоніі. Там усё было яму знаёмае, зручнае і зразумелае.

— Усё ж такі, — дадае ён, — чалавек павінен прымаць новыя выклікі і спраўджацца ў любых абставінах. Менавіта сёння гэта і адбылося. Супрацоўніцтва з дырэктарам Падляшскай оперы Раберта Скальмоўскім у арганізацыі сёлетняга канцэрта праходзіла вельмі паспяхова. Ён уклаў тут свой розум, сур'ёзнасць і прафесіяналізм, мы з другога боку перадалі асобую спецыфіку і досвед, і атрымалася, што атрымалася.

На самай справе настрой за кулісамі сцэны Падляшскай оперы ў той вечар быў асабліва незвычайны. Мабыць, усіх удзельнікаў трыццаць першага канцэрта праваслаўных калядак ахапіла агромнейшае хваляванне і пачуццё гонару ад удзелу ў мерапрыемстве. Усе яны ўпершыню атрымалі шанс пабываць на славутай сцэне, а, мабыць, і ў гэтым будынку ўвогуле. Сапраўды, незвычайны досвед. Суперсучасныя, утрыманыя ў добрым смаку інтэр'еры, захапляльныя цуды тэхнікі, спраўная, прафесіянальная абслуга маладых спецыялістаў. Дарослыя і дзеткі з аднолькавым энтузіязмам успрымалі кантакт з рухомай сцэнай, дастаўляючай уражанняў родам з луна-паркавых атракцыёнаў. Прафесіянальная сцэнаграфія і рэжысура канцэрта ўвяла ў казачны клімат не толькі публіку, але і выканаўцаў. Цяжка тое, што там адбылося, назваць папросту канцэртам. Удалая кампазіцыя мультымедыйнай тэхнікі і натуралізм выступаючых стварылі эфект сапраўднага, музычнага спектакля. Оперным дэбютантам у галовах сядзела толькі адна думка: ці хаця хопіць ім падрыхтоўкі і адвагі, каб добра сябе тут запрэзентаваць. Дадатковым повадам для хвалявання была таксама колькасць сабраных у гэты вечар гледачоў. Усе білеты разышліся як цёплыя булкі задоўга да канцэрта. Многія занялі прыстаўленыя, коштам часці сцэны, сядзячыя месцы. Нават тыя, што ўхапіліся прыстаўленых крэсел, не шкадавалі. Прэзентаваны ў гэты вечар рэпертуар аказаўся асабліва прываблівым і разнародным. Побач самых лепшых, мужчынскіх галасоў хароў праваслаўнага духавенства і ардынарыята Войска Польскага прагучала віртуозная далікатнасць жанчын і дзетак беластоцкага Уваскрэсенскага прыхода. У клімат царскіх часоў сваёй вопраткай і рэпертуарам усіх сабраных перанесла крынская „Зараніца". Бельская „Жэмэрва", як заўсёды, удала паказала абрад гагатухі. У гэты раз іх аўтэнтычнаму, пранікаючаму душу і цела спеву спадарожнічаў акампанемент скрыпкі і старажытнай дуды.

Многа творчай працы ў падрыхтоўку свайго каляднага выступлення ўклаў прыманастырскі хор з Супраслі. Яго галоўнай адметнасцю з'яўляецца безумоўна сямейнасць. Тут разам выйшлі на сцэну дзяды, бацькі і дзеці. Даволі вялікая, бо з шасцідзесяці асоб супрасльская кампанія намагалася перадаць значэнне менавіта сямейнасці ў свяце Божага Нараджэння. Як сказала рэгентка і заадно стваральніца супрасльскага сцэнічнага праекта матушка Міраслава Ціханюк, яны адыгралі святочны эпізод з жыцця сучаснай, падбеластоцкай сям'і. Супрасльскія акцёры пачалі з запалення свечкі ў царкве на вячэрнім богаслужэнні. Потым, за сямейным сталом, чакалі першай зоркі, каб разам з любімай бабуляй праспяваць даўнія калядкі. У атрыманні канчатковага, пазітыўнага рэзультату дапамагла аўтэнтычнасць і натуральнасць, а прытым вялікая ангажаванасць супрасльскіх харыстаў.

Дэсертам гэтага вечара было выступленне прафесіяналаў — хору Падляшскай оперы. Сусветны калядны рэпертуар падалі яны ў неканвенцыянальнай, сціплай, а заадно поўнай жыцця харэаграфіі.

Пачуцця добрага смаку ад канцэрта ўсім прысутным напэўна хопіць не на адзін доўгі, зімовы вечар.

# Рэтраспектыўная выстава карцін Алега Кабзара



Тэкст і фота
Аляксея МАРОЗА

Беларускі жывапісец і музык **Алег Кабзар** жыве ў Польшчы з 1996 года і тут умела разгарнуў свой мастацкі і музычны талент. На яго карцінах адлюстраваны архітэктура Бельска-Падляшскага, краявіды Гайнаўшчыны, пейзажы іншых месц Беласточчыны, ці нацюрморт. Апошнім часам паўсталі працы, якія жывапісец называе ўнутраным мастацтвам.

Алег Кабзар выяўляе ў іх свае эмоцыі, унутраны свет. Менавіта гэтыя карціны, насычаныя сімваламі, найбольш спадабаліся гайнавянам, якія прыбылі на адкрыццё рэтраспектыўнай выстаўкі яго жывапісу ў канцы снежня мінулага года ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Алег Кабзар запрэзентаваўся таксама як бард, співаючы пад гітару свае песні.

«Самыя важныя для мяне моманты ў маляванні — гэта моманты «падсвядомасці», калі не разумею «што» малюю і чаму менавіта «так», калі мая энергія выходзіць з мяне «не кантраляваная». Малюючы, напрыклад, у пленэры некалькі гадзін, шукаю розныя якасці, падглядаючы і аналізуючы натуру. Надыходзіць момант, калі я гатовы да заканчэння-падсумавання кампазіцыі. Гэты момант я апісаў вышэй — момант поўнай мастацкай інтуіцыі (калі яна ў мяне ёсць). Такі час я асцярожна называю творчым, і калі ён не надыходзіць — няма твора. Уменне і веды (і не думанне аб іх) патрэбны па тое, каб не змарнаваць такія праблескі праўды», — напісаў Алег Кабзар у буклеце з рэпрадукцыямі карцін жывапісца, які выдаў белмузей.

Мастак нарадзіўся ў 1971 годзе ў Гомелі. Ён — выпускнік Рэспубліканскай музычна-мастацкай школы і Акадэміі мастацтваў у Мінску (аддзяленне станковага жывапісу). Калі пераехаў на пастаяннае жыхарства ў Польшчу, стаў вядомым у нас як бард і жывапісец. Пісаў тэксты і кампанаваў музыку да паэзіі, між іншым, Надзеі Артымовіч, Анатоля Сыса, Яна Чыквіна. Жыў у Бельску-Падляшскім, Варшаве. З 2006 года працуе ў Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку. Выстава яго карцін была наладжана ў Гайнаўскім белмузеі ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва», а буклет з рэпрадукцыямі яго карцін ужо традыцыйна будзе далучаны да «Слоўніка беларускіх мастакоў». Агнешка Ціханюк з захапленнем выказвалася пра карціны Алега Кабзара, размешчаныя на арганізаванай ёй выстаўцы ў вялікай канцэртнай зале белмузея.

— Варштат працы Алега Кабзара вельмі добры. Частка яго карцін інсп іраваная музыкай. Мне вельмі падабаюцца яго карціны з асабістага цыкла прац, якія адлюстроўваюць унутраны свет мастака. Таксама цікавыя яго пейзажы. На многіх карцінах колер і праблескі святла маюць вялікае значэнне. Алег Кабзар — беларус і гэта відаць не толькі на аснове яго песень, але і на падставе яго карцін з нашымі макаткамі і іншымі нашымі матывамі, — гаварыла Агнешка Ціханюк і напомніла, што ў мінулым у белмузеі была ўжо меншая выстаўка прац Алега Кабзара.

Жыхарам Беласточчыны Алег Кабзар вядомы таксама як мастацкі кіраўнік моладзевага кабарэ «Куль», які дзейнічаў у Бельскім белліцэі, як інструктар журналіцка-мастацкіх майстар-класаў ладжаных нашым тыднёвікам, ці як выкладчык рысунку і тэорыі мастацтва ў Школе іканапісання ў Бельску-Падляшскім. Выставы карцін мастака апрача Гайнаўкі арганізаваліся ў Бельску-Падляшскім, Варшаве і Беластоку. Яго музычныя альбомы гэта «Трэцяе вакно» (разам з Тамашам Сулімам), «Дванаццаць сноў» і «Бераг» на вершы Надзеі Артымовіч.

— Я гляджу на частку карцін Алега Кабзара як на працы, што ўзніклі пад уздзеяннем яго музыкі, бо музыка інспіруе да мастацтва. Яго карціны няпростыя ва ўспрыманні і каб іх зразумець, трэба глядзець на некаторыя дэталі на яго працах, як на сімвалы. Я гляджу на многія карціны Алега з вялікім зацікаўленнем, проста яны мне падабаюцца, — сказаў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк.

— Ёсць перыяды, калі я больш працую як мастак, а ёсць час, калі я больш займаюся музыкай. Частку карцін я выканаў, заглыбляючыся ў сябе, а на іншых паказваю акружаючы свет. У майстэрні часам бывае задуха і пленэры важныя, каб прачысціць сваё вока і каб пазней больш энергічна і чыста рабіць уласныя рэчы. Сярод выставак, на якіх паказваліся мае карціны, самыя важныя для мяне ладжаныя ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы і ў бельскай ратушы, — гаварыў аўтар прац на вернісажы.

— Я вельмі высока ацэньваю карціны Алега Кабзара, а калі гаварыць пра яго пейзажы, то ў іх многа падобнага з маімі карцінамі з краявідамі. Відаць, што спадар Кабзар — добры мастак, які валодае вялікімі ўмеласцямі і свабодна пераходзячы ад аднаго стылю малявання, да другога, іграе імі. Бачу я на яго карцінах сімвалізм, дэталі з імпрэсіянізму і рэалістычныя дэталі. Аднак не закрываецца ён у нейкіх абмежаваннях, разгортвае свае ўмеласці і ідзе ў напрамку ўласнага стылю. На карцінах з пейзажамі відаць гульню колерамі, свабоду і спантаннасць, што робіць працы асабліва цікавымі. Свой унутраны свет спадар Алег удала паказвае з дапамогай сімвалаў, — сказаў гайнаўскі жывапісец Данель Грамацкі.

— У жывапісе стыль у мяне ўласны, сціплы, фарбамі я карыстаюся памяркоўна. Малая колькасць рэчаў гаворыць у мяне аб многім. Сваю дыпломную працу «Малітва» я выканаў пад уражаннем Грабаркі, дзе я жыў дзесяць дзён і рабіў эскізы, — сказаў Алег Кабзар, які тады не ведаў яшчэ, што пасля так многа энергіі аддасць Беласточчыне, таксама як бард.

— Тэхніка на карцінах Алега Кабзара цікавая, частка прац насычаныя моцнымі колерамі, — сказаў жыхар Гайнаўкі, які сам паспрабаваў маляваць. Іншыя гайнавяне звярталі ўвагу на працы з філасофскім зместам, на архітэктуру Бельска-Падляшскага, нацюрморт і краявіды.

— Мне заўсёды падабалася творчасць Алега Кабзара, з якім я знаёмы яшчэ з часу вучобы ў акадэміі ў Мінску. Удала ён карыстаецца колерамі, добры ў яго варштат працы. Усёй нашай сям'і, таксама і сыну, найбольш падабаецца карціна «Сон», з ложкам, макаткай і гітарай, — сказаў Міраслаў Здрайкоўскі, мастак з Беластока.

— Мастацкай інтуіцыяй кіруе натура. Яна і ствараe канструкцыю кожнага твора. Досвед падказвае, што шлях набліжэння да рэальнасці вядзе праз адыход ад натуралізму. Парадокс... Аднак важны прастата і шчырасць у маляванні, выбар уласнага матыву, уласнага свету. Не менш важным з'яўляецца месца і не кажу толькі пра сцены нейкай майстэрні, але, перш за ўсё, аб зямлі і людзях, небе і дрэвах, успамінах і настроях, якія ствараюць месца, у якім адчуваем сябе натуральна. Маімі месцамі былі і застаюцца родны Гомель, мастацкі Мінск і таямнічы маленькі Бельск-Падляшскі. Не магу патлумачыць чаму менавіта яны. Месцы самыя выбіраюць чалавека, — лічыць спадар Кабзар.

## Зіма ў Новым Ляўкове

Зраз снегу а снегу! У Новым Ляўкове снег з тратуара пастаянна згортвае шэсць-сем гаспадароў. Усюды па ім не прайсці. Вялікія гурбы снегу ляжаць на аўтобусным прыпынку. Каб можна было хадзіць па тратуары, пра гэта не клапоцяцца людзі, якія з'ехалі на зіму ў гарады. Па-мойму да тых, хто тут пражывае, павінна завітаць паліцыя.

Снег ляжыць на тратуары, а навалляўкоўцы, сама менш 20 двароў, яго не адкідваюць у равы або на гурбы пад плотам. Не бяруцца за лапату і мятлу. Не ўсе бяруць прыклад з солтыса. Выдумляюць розныя прычыны, каб толькі не адкідваць снегу насупраць свайго дома. Некаторыя дадаюць сабе гадоў і ўміг яны ўжо старыя або тут жа пахварэлі, калі солтыс зайшоў да іх у хату.

А вось у 2010 годзе таксама была снежная зіма. Тады ў Новым Ляўкове тратуар быў расчышчаны. Радны жыў у роднай вёсцы і заклікаў выходзіць з лапатай. Для тых, хто замятаў тратуар, даваў бярозавы венік. Цяпер новы радны жыве ў Ахрымах і які яму клопат пра ляўкоўскі тратуар.

І яшчэ адно. Зімой паліцыя павінна часцей наведвацца ў суседнія ад Нараўкі вёскі, напомніць каму трэба, каб адкідвалі снег з тратуара. А яшчэ і таму, што зладзеі перад святамі ўзяліся абкрадаць крамы з харчовымі прадуктамі. У Новым Ляўкове, узламаўшы дзверы, абакралі краму ноччу з 18 на 19 снежня 2012 года.

## Хуліганы ў Ляўкове

Прыкра пра гэта пісаць. У Новым Ляўкове (Нараўчанская гміна) сфрустраваная моладзь хуліганіць. Найперш выпіўка, напрыклад, у пачакальні на аўтобусным прыпынку. І пад гэтым падстрэшкам паламалі дошкі-лавачкі, пакінулі пластмасавыя кубкі, бутэлькі і банкі з-пад піва.

Аднойчы пад вечар у нядзелю яны паадрывалі новыя расклады язды аўтобусаў ПКС і прыватнага пасажырскага транспарту. Мала таго, паздзекаваліся над дошкай аб'яў — пазрывалі паведамленні пра культурныя мерапрыемствы ў Нараўцы і ў Гайнаўцы (усе актуальныя). Пра гэта клапоціцца солтыс.

Познім вечарам 3 студзеня хуліган падпаліў вялікі пластмасавы кантэйнер для смецця. Ён быў ужо разгарэўся. Дым заўважыў солтыс і патушыў агонь снегам. Смеццязборнік будзе служыць далей.

Паліцыі на вёсцы ў нас не ўбачыш. Хіба што калі хто яе выкліча.

**(яц)**

## СПАЧУВАННІ

Нашай рэдакцыйнай сяброўцы **Яўгеніі Палоцкай** словы шчырага спачування з прычыны напаткаўшага Яе гора — смерці мужа

— выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы".



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# Сямейнае калядаванне ў Беластоку

— Ой, Дар'я! А чаму ты сваёй зорачкі не зняла? — спытала мама.

Віфлеемская зорка ўпрыгожвала галоўку дзяўчынкі. Гэта быў элемент сцэнічнага касцюма, у якім малая выступала на „Святочным калядаванні". І зараз, калі сямейка апранался ў раздзявальні, дачушка заўпарцілася. Спачатку не хацела зняць зорку і адзець шапку, а пасля бягом кінулася ў залу з крыкам:

— Хачу яшчэ спяваць!

Каляды любяць усе, а ўжо найбольш дзеці. Да таго ж у беларускім садку доўга рыхтаваліся да свята. Цягам папярэдняга месяца тут ладзілі майстар-класы з Аняй Фіёнік са Студзіводскага музея. Дзеці ведаюць многа беларускіх калядак, у тым ліку народных, дзе спяванне спалучаюць з гульнёй у тэатр. Вось і ў гэты раз з калядоўшчыкамі былі і каза, і конь, і мядзведзь...

Спачатку дашкольнікі выступілі цэлымі класамі, а пасля спявалі разам з бацькамі. Свята атрымалася шматлюднае, як якія фестываль. Не дзіва — у садку 105 навучэнцаў. Ды калі палічыць бацькоў, сваякоў і гасцей, грамада вырасце нам у тры-чатыры разы!

„Святочнае калядаванне" ў гэты раз наладзілі ў рэстаране „Савілля". За сталом са святочнымі пірагамі мы пазнаёміліся са спадарствам Магдалінай і Даркам Баенамі.

— Я сам хадзіў у беларускую школу, пасля вучыўся ў Бельскім беларускім ліцэі, — адзначае спадар Дарэк, — таму хачу, каб дачка працягвала сямейную традыцыю. Гэта мой абавязак. А ў жыцці гэта напэўна прыдасца.

Сямейка Баенаў польска-беларуская, таму найфайнейшая тут адкрытасць бацькоў:

— Калі Юля спявае, гаворыць беларускія вершы, то я паўтараю і таксама вучуся, — дадае мама.

„Святочнае калядаванне", ад якога старым і малым застаўся каляровы і цёплы вобраз, згулялі 15 студзеня г.г. Праз пяць дзён дзеткі выступілі на калядным мерапрыемстве „Гвязда і калядка".

**Фота і тэкст Зорка**







*Наталля МАРЧУК*
*школа ў Нарайцы*

## Лес

*Я іду, іду,*
*Па вялікім імху,*
*Праз зялёны лес.*
*Шумяць сосны,*
*Пахнуць елкі*
*Шалясцяць лісткі.*
*Дзяцел ходзіць*
*Па галінцы,*
*Дзюбай стукае ў пень.*
*А вавёрка*
*З рыжым хвастом*
*Прабягае пад нагамі*
*І збірае, усё што пападае.*



Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## Зіма

*Марозная зіма нас наведала,*
*ільдом азёры накрыла.*
*Коўдру са снегу зрабіла*
*і лясы, і дрэвы,*
*і палі ім накрыла.*
*Жывёлы прыспала*
*і далей працавала,*
*Дзеда Мароза да хмар паслала*
*і тэмпература са снегам апала.*

*Аляксандра Валосік,*
*4 кл. „б" бельскай „тройкі"*

## Вершы Віктара Шведа

### Астрожная размова

— Быў ён непісьменным
І сядзеў, вядома,
Як злодзей страшэнны
За крадзеж з узломам.

Мы яго за кратамі
Вучылі сур'ёзна —
Ён фальсіфікатар
Дакументаў розных.

### Найлепшы бягун

Спыталіся Адася:
— Скажы ты нам, дружок,
Хто ў вашым класе
Найлепшы бягунок?

— У нас на стометроўку
Найлепшы Аляксей.
А ў нашую сталоўку
Бягу я найхутчэй.

# Студзеньскае паўстанне па-беларуску!

— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!
— То ўзаемна!

Гэта не верш, а пароль паўстанцаў 1863 года, паплечнікаў Кастуся Каліноўскага. Беларусы Беласточчыны наогул нічога не ведаюць пра ролю беларусаў у паўстанні. Нават магілы паўстанцаў, якія знаходзяцца ў нашых вёсках і лясах (іх найбольш у Кнышынскай і Белавежскай пушчах), не выклікаюць большай цікавасці. Чаму так адбываецца? Найперш таму, што ўсю гісторыю ведаем з польскіх падручнікаў, дзе няма спасылкі на беларускія пытанні. Навучэнцы беларускай мовы ведаюць крыху больш. Кастусь Каліноўскі бачыцца тут найперш як рэдактар першай беларускай газеты „Мужыцкая праўда”.

Якраз пачалося ў Польшчы шумнае святкаванне 150-й гадавіны ад успыху паўстання 1863 года (тэрмін „Студзеньскае паўстанне” вядомы ў Польшчы). Мы заахвочваем вас пачытаць пра падзею, бачаную вачыма беларусаў. Тут трэба згадаць знакамітую аповесць Сакрата Яновіча „Сярэбраны язок”. Яго паўстанцы гэта звычайныя хлопцы з нашых мястэчак: Крынак, Ялоўкі, Саколкі. Варта таксама пачытаць „Мужыцкую праўду”, якая даступная ў інтэрнэце.


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Мастаўляны — месца дзе быў двор Каліноўскіх

Праўда, гэтую прапанову накіроўваем адно да старэйшай моладзі, паколькі сваёй вастрынёй яна прыцьміць усякія баевікі і жахалкі. Трэба тут таксама памятаць, што газета заклікае на вайну, таму на яе экстрэмальны характар трэба глядзець з дыстанцыяй і зразуменнем гісторыі. „Мужыцкая праўда” пісалася на нашай зямлі, а сам Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 2 лютага 1838 года ў Мастаўлянах, што на Гарадоччыне.

(гак)

# Музыка з кайфам

## З джаза ў фольк: Павал Аракелян



Хаця я слухала і чытала пра гэтага музыка шмат, упершыню ўжывую пабачыла яго на мінулагоднім фестывалі „Бардаўская восень”. Прызнаюся, што гэты выступ схапіў мяне знянацку, бо постаць Паўла Аракеляна асацыюецца з якасным беларускім джазам, а ў час фестывалю не планавалася такога выступу, а Павал выступаў у дуэце з Лявонам Вольскім. Сёння мяне гэта не здзіўляе, калі ведаю, што запрасілі яго ў склад гурту „Крамбамбуля”.

Павал Аракелян, хаця яшчэ малады, бо нарадзіўся ў 1985 годзе, неаднойчы прызнаваны быў лепшым саксафаністам Беларусі. Напэўна і таму, што гэта вельмі актыўны музыка. Працаваў у складзе такіх гуртоў як „Apple Tea”, „Svet Boogie Band” ці „Камэрата”. Сам апошнія гады працуе таксама з уласным гуртом, які называецца „The Outsiders”. З гэтым гуртом запісаў дэбютны альбом „The Ballad of The Lost Musician”, але самы вялікі поспех гэта безумоўна галоўная ўзнагарода на буйным расейскім фестывалі „Усадьба. Джаз”. Гэта было яшчэ ў 2008 годзе і з гэтага часу напэўна шмат памянялася, але гэта выдатны доказ якасці і вартасці працы Паўла Аракеляна. Неаднойчы, дзякуючы свайму таленту і прафесіяналізму, меў магчымасць працы з джазавымі зоркамі, але працуе таксама з беларускімі артыстамі, павышаючы пастаянна ўзровень радзімага джаза. Сярод супрацоўнікаў ёсць і яго сястра, Ане на Аракелян, з якой працаваў між іншым пры сваім апошнім праекце. У рамках яго наш выдатны джазман напісаў музыку на вершы Анатоля Сыса. Гэта, відаць, адзін з самых класных аўтараў пад музыку, хаця яго паэзія няпростая, але вельмі маляўнічая, таму да яго творчасці звяртаецца шмат музыкаў. У творчасці Аракеляна гэта таксама не першы эксперымент з паэзіяй беларускіх аўтараў, бо яшчэ ў 2011 годзе стварыў праграму „Ластаўка” на словы Уладзіміра Някляева.

Павал Аракелян — адзін з больш актыўных джазманаў Беларусі і вельмі дацэньваны іншымі артыстамі, пра што сведчыць чарговы перыяд яго працы. Можна сказаць, што яго пачаткам з'яўляецца супрацоўніцтва са згаданай „Крамбамбуляй” і гуртом "Крыві". Чакаем вынікаў!

i_basovka@o2.pl

# Загадка (№ 4-13)

(Адказы дашліце ў „Зорку” да 10 лютага 2013 г.г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды).

Носам мы прывыклі дыхаць,
Ім са злосці можна чмыхаць,
Задзіраць яго да неба
І ўтыкаць куды не трэба.

А хто бачыў такі нос,
Каб на ім бярэзнік рос?
*(Кандрат Крапіва)*

Адказ на загадку № 51: **Тры дубы і чатыры галубы**. „Смяшынкі” Віктара Шведа (з аўтографам аўтара) выйграла **Дамініка Благушэўская** з НШ імя КіМ у Беластоку.


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Я - Мацей Цілюлька, мне 9 год. Вучуся ў другім „Б” класе Пачатковай школы № 4 у Беластоку. Вывучаю беларускую мову. Сардэчна паздараўляю „Зорачку”.

**Ад рэдакцыі:**
*Прывітанне Мацейку і яго дзядулі Валодзі з Саколкі!*

# Польска-беларуская крыжаванка № 4

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 53:

Ас, ода, акрай, брат, як, рыцар, галава, руды, Адам, турнір. Анёл, густ, абрад, крылы, праца, Ян, атава, радар, касміт.

Узнагароды, фламастэры (cienkopisy), выйгралі **Аня Бяляўская**, **Магда Пташынская** з Нараўкі, **Мартына Леанюк**, **Інэз Дмітрук**, **Моніка Зырчук-Жар** з Орлі, **Марыюш Красько** з Арэшкава, **Матвей Пугацэвіч**, **Мацей Цілюлька** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!

Bróg siana
Żółw
Śnieg
Wiosło
Plaża
Ach!
Ty
Ania
Słuch
Czas
Śnieżka
Las
Ja
No
Wygląd prezencja
Mag

## З Белавежжа родам

Цяжка ўявіць, што няма яе, жыццярадаснай, непаседлівай, актыўнай, акуратнай і лагічнай, моцнай, а адначасова хрусткай, далікатнай, вытанчанай, уражлівай жанчыны. Варшавянкі з 1953 года. Сяброўкі Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Паэтэсы, якая ў сваёй лірыцы ўслаўлівала сам смак жыцця, а ў прозе, як і ў „Смаку жыцця" (1998), і ў новай кніжцы „Шчадруха" (2009), у якую ўвайшоў выбар яе апавяданняў, эсэ, успамінаў і вершаў, якой яна стварала помнік яе родным Падалянам і падалянцам. Алена Анішэўская, з роду Казакоў, дачка Яна (расстралянага фашыстамі 2.08.1941 г.) і Ніны, нарадзілася ў вёсцы Падаляны, якая цяпер уваходзіць у склад Белавежы.

— Там было толькі тры польскія каталіцкія сям'і. Рэшта была праваслаўнымі беларусамі. Усе размаўлялі на беларускай мове. З самага дзяцінства я размаўляла на беларускай мове і лічыла яе роднаю. Я нарадзілася ў маі месяцы, можа гэта таксама мае нейкае значэнне, хто калі родзіцца, такі можа характар мае, у 1927 годзе. Я была старэйшай у сям'і, нас было чацвёра. Жылі мы на першых Падалянах у Белавежы гады чатыры-пяць, пакуль бацькі не збудавалі свайго дома на так званых другіх Падалянах. Там дагэтуль яшчэ недзе „тырчыць" нашае карэнне ў гэтай сядзібе, — расказвала Алена Анішэўская. — Азіраючыся назад, на сваё жыццё, я бачу, што лёс падарыў мне шмат цікавых і вартасных падзей, якія ўспрымаю як кампенсацыю за



іншыя ягоныя фрагменты, што былі часам і не пад сілу. Самым жа вартасным, важным у жыцці я лічу знаёмства і духоўнае збліжэнне з цікавымі, ідэйнымі людзьмі, натхнёнымі творцамі... Асаблівых планаў у мяне ўжо няма. Але надалей шмат чытаю, цікаўлюся многімі справамі. І гэта мне дапамагае неяк жыць. Але не ведаю, ці яшчэ буду пісаць. Бо я тварыла ноччу. Цяпер мае бяссонныя ночы не такія. Я калісьці магла паспаць тры-чатыры гадзіны, а потым працаваць. Ноччу пісала, а днём займалася домам, сям'ёй, працавала.

Алена Анішэўская да сваёй творчасці адносілася не зусім сур'ёзна. Называла сябе перш за ўсё грамадскай дзячкай.

— Мне здавалася, што пісанне другасная справа ў маім жыцці. Я шмат сваіх тэкстаў згубіла, не магу знайсці ўсіх тэкстаў, якія я напісала. Але, калі дазволіць здароўе, пашукаю ва ўсіх сваіх шуфлядах, і можа які томік вершаў яшчэ і выдам... Мая душа патрабавала заўсёды беларускай мовы..

У паэме „Наш Парнас" Алену Анішэўскую не пакідаў жарт і добрыя спадзяванні:

На „Ніве" ўсё штосьць даспявала,
калі быў ураджай, калі засуха...
Але не варта падаць духам:
мінулае ацэньваць можна так і сяк.
Мы не загінем шчэ,
я бачу, падрастае маладняк!

Памерла Алена Анішэўская 17 студзеня 2013 года ў Варшаве.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



Ізабела Валіеўская

Уршуля ШУБЗДА

# І ў Сухаволі „гавораць па-простаму"

**„Асноўнай прычынай знікнення гаворкі гэта стаўленне мясцовага насельніцтва, асабліва маладога пакалення, да мовы. Маладыя людзі саромеюцца выкарыстоўваць яе, таму што яна паказвае вясковае паходжанне, якое многія лічаць горшым. У сувязі з гэтым „простая мова" набірае адмоўнага значэння"**

Апошнім часам можна заўважыць трэнд, каб ганарыцца гэтым, што гаворым „па-свойму". На фейсбуку праводзіцца грамадзянская акцыя, дзе карыстальнікі, якія „howorat pa-swojemu" магуць упадабаць гэтую ж старонку і тым самым пацвердзіць, што тая мова блізкая іх сэрцу. У Сухаволі прайшла падобная акцыя, толькі ў больш стандартнай форме — на паперы. А на лакальную гаворку звярнула ўвагу асоба, якая сама сутыкнулася з ёю.

Сухаволя — невялікі горад, які жыве, дзякуючы комплексу школ і штотыднёваму торгу ў чацвер. Дастаткова прыехаць сюды ў час канікулаў і не ў чацвер, каб здзівіцца пустатой таго мястэчка. І хаця, як заўсёды, прывітае нас лозунг „Цэнтр Еўропы" — стрымайма разбуханыя спадзяванні. Сам цэнтр Сухаволі гэта вялікі белы касцёл, а перад ім — плошча. Даўней раслі там конскія каштаны, стаялі лаўкі, дзе ахвотна хавалася моладзь з блізкага ліцэя з півам ці семкамі. Дрэвы трэба было зрэзаць, дзякуючы таму лепш відаць фантан — інвестыцыю вартую звыш мільёна злотых. Бурмістр Казімір Марцішэль адзначыў, што ў час крызісу не будзе ў Сухаволі больш грошай на такія інвестыцыі. Дадаў, што не бачыць сэнсу, каб фантан (хаця цешыць вока) быў неабходным жыхарам гміны. Аднак не ўсе пагаджаюцца са словамі бурмістра:

— Сухаволя гэта не хлеў і яе жыхары, выходзячы на вуліцу, маюць права, каб акружала іх красата, — сказала сухавольшчанка, усхваляваная словамі бурмістра.

Варта дадаць што фантан на розныя спосабы плюе вадой і мяняе колеры. На плошчы стаіць таксама вялікі камень, які нібыта вызначае геаграфічны цэнтр Еўропы. На самым перадзе — скульптура благаслаўлёнага ксяндза Юрыя Папялушкі. А над гэтым усім дуга, прывезеная з Беластока, якая стаяла над алтаром у час пілігрымкі рымскага папы Яна Паўла II. Трыўмфальная арка каталіцызму і гэтага ўсяго, што ўдалося сабраць на так невялікай плошчы.

У рэшце рэшт у Сухаволі Гмінным асяродкам культуры выдадзены быў слоўнік „Haworym pa prostu" — невялікі чорна-белы сшытак, у якім у алфавітным парадку можна знайсці словы мясцовай гаворкі з польскімі адпаведнікамі. Дзе-нідзе ў слоўніку таксама знаходзіцца фатаграфіі прылад, якімі карысталіся даўней, напрыклад, лапці, бязмен, апалонік. Слоўнік узнік у рамках праекта „Раўняць




шанцы" Польска-Амерыканскага фонду свабоды ды Польскага фонду дзяцей і моладзі. Калі ўжо пра моладзь — гэта сухавольскія ліцэісты сабралі матэрыял для слоўніка.

— Моладзь, крыху я, сабралі паасобныя гутарковыя словы, — адзначыла каардынатарка праекта Ізабела Валіеўская. — Размаўлялі яны са сваімі бацькамі, дзедкамі. Ведаю, што моладзь ездзіла таксама ў суседнія вёскі, каб сабраць як найбольш матэрыялу.

Слоўнік налічвае пад трыццаць старонак, запоўненых словамі гаворкі Сухавольскай гміны. На жаль (да чаго прызнаецца сама каардынатарка праекта) нават ужо пажылая асоба з гміны Сухаволя, беручы ў рукі слоўнік, не можа прызнацца, што карыстаецца ўсімі словамі, якія там апынуліся. Мовазнаўца Васіль Сегень упэўнены, што ў слоўніку знаходзіцца многа калаквіялізмаў, якія не маюць нічога супольнага з сухавольскай гаворкай. І так чытаем што *kinol* — гэта нос, *farfocel* — крышку чагосьці, *iść z buta* — ісці пяшком, *menel* — піяк. Ізабела Валіеўская тлумачыцца, што маладыя людзі, збіраючы словы, магчыма не змаглі адрозніць сапраўднай гаворкі ад напłыўных зваротаў:

— Людзі, якія мелі магчымасць паглядзець гэты слоўнік, прыходзяць, звяртаюць увагу, што гэтае слова сапраўды значыць штосьці іншае або ўвогуле не выступае. Гэта праца моладзі. Вядома, яны не з'яўляюцца спецыялістамі. Я таксама не.

Самая Ізабела Валіеўская родам з Аўгустова. Выйшла замуж у Падгараднянку.

— Па шлюбе прыйшлося мне жыць на вёсцы. А я ніколі не мела нават сям'і на вёсцы. І калі старэйшыя да мяне гаварылі, я зусім іх не разумела. Мяне гэта здзіўляла, што Аўгустаў ляжыць не так далёка ад Падгараднянкі і Сухаволі, такі невялікі адрэзак, а ўжо зусім іншая мова. Сапраўды, на пачатку было многа смешных сітуацый, калі людзі звярталіся да мяне на іхняй гаворцы. Нават калі паводле іх гэта былі нескладаныя пытанні, для мяне гэта быў „космас".

Аднак каардынатарка слоўніка прызнаецца, што сама стараецца ўвесь час вывучаць мясцовую мову:

— Нялёгка чалавеку звонку гэтую гаворку паняць.

Ізабела Валіеўская, калі супрацоўнічала з моладдзю пры слоўніку, звярнула ўвагу на тое, што для іх цяжка было пераламацца.

— На пачатку відаць было, што крыху саромеліся размаўляць на гэтай мове, якую ведаюць з уласных хатаў. На шчасце пазней нам удалося лепш пазнаёміцца і можна сказаць, што слоўнік гэта іх самастойная праца.

Ва ўступе да слоўніка можам прачытаць выснову: „Асноўнай прычынай знікнення гаворкі гэта стаўленне мясцовага насельніцтва, асабліва маладога пакалення, да мовы. Маладыя людзі саромеюцца выкарыстоўваць яе, таму што яна паказвае вясковае паходжанне, якое многія лічаць горшым. У сувязі з гэтым „простая мова" набірае адмоўнага значэння".

Хаця, гледзячы вокам мовазнаўцы (тут Васіля Сегеня), гэты слоўнік з'яўляецца малавартаснай працай, але ў культурным плане для Сухаволі гэта вялікі крок.

— Думка стварыць гэты слоўнік паўстала амаль на самым пачатку, калі я сутыкнулася з мясцовай мовай, — дадае Ізабела Валіеўская. — Мяне здзіўляла тое, што да таго часу няма ніводных падобных апрацовак. Ніхто тут раней гэтым не займаўся.

„Меў быць Парыж" — пісаў калісь аб Сухаволі Аляксандр Вярбіцкі ў „Ніве" (39/2011). Цяпер, дзякуючы фантану, грузавікі, якія ў вялікай колькасці праязджаюць праз мястэчка, у час гутарак па СіБі-радыё называюць яе Лас Вегас. Як відаць, горад заўсёды пратэндаваў на метраполію. І можа гэта з'яўляецца галоўнай перашкодай, якая не дазваляе засяродзіцца жыхарам на лакальнай культуры, якая, магчыма, для іх здаецца быць менш прывабнай.

Тэкст і фота
Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Бобрай

З ранішняга аўтобуса з Беластока ў Сувалкі, якім едзе каля дзесяці чалавек, сходжу ў Штабіне. Калісь-калісь называлася гэтая мясцовасць Асінкамі. А геаграфічны даведнік Польскага Каралеўства ад 1887 года паведамляў, што там была fabryka maszyn rolniczych...

Аднак тая фабрыка не ў самім Штабіне была, але ў адлеглай некалькі кіламетраў ад яго Гуце. Фабрыку заснаваў уласнік Штабіна Караль Бжастоўскі: „Słownik geograficzny Królestwa Polskiego" падае: „W r. 1818 hr. Brzostowski zniósłszy dwie dymarki, istniejące w Janówku i Lebiedzinie, wystawił w Sz. piec do wytapiania rudy łącznej wydobywanej z bagien nad Biebrzą, a w r. 1830 nowy wielki piec, którego miechy poruszała machina parowa. Zakład ten produkował rocznie około 4000 centn. żelaza (głównie naczyń kuchennych). Istniały tu także tokarnia, forniernia, zakład stolarski, kotlarnia i kuźnia. Fabryka ta dostarczała odlewów dla szluz przy budującym się Kanale Augustowskim. W r. 1820 Brzostowski zniósł w całych swoich dobrach pańszczyznę i pozaprowadzał szkółki z nauką obowiązkową". Вырабы гэтай фабрыкі датрывалі нашага часу не толькі ў захаваных шлюзах канала. Пасля смерці Бжастоўскага машыны з ягонай фабрыкі былі пераведзены ў Гродна і мабыць адтуль у канцы XIX стагоддзя з'явіліся ў некаторых мясцовасцях сённяшняга Сакольскага павета чыгунныя помнікі, м.інш. у Гарасімавічах, Хільмонах ці Грабянях, што каля Гарадзішчан...

Варта адзначыць таксама іншую інвестыцыю Бжастоўскага, менавіта піваварна-гарэлачны завод. У прынцыпе вырабы такіх заводаў прадаваліся мясцовым мужыкам дзеля іх распівання і затуманьвання, каб лягчэй было іх трымаць у залежнасці. Але Бжастоўскі павёў іншую палітыку, менавіта свае алкагольныя вырабы ён прызначаў для вонкавага спажыўца і вялікая частка іх вывозілася згаданым ужо Аўгустоўскім каналам у Варшаву і Лодзь, а пасля ва ўсходнім напрамку. Затое ж мясцовым забаранялася ўпівацца: „Zastrzega się zł 6 na szynkarza kary za każdego komu wydana będzie wódka z szynku do stopnia upicia się. Szynkarz powinien uważać w jakim stanie kto przyszedł i wiele jemu może pozwolić wypić, i odbierać nawet wódkę od tych, którzy innych nad potrzebę ich częstują. Wydawać na stronę czyli na wyniesienie z izby szynkowej nie wolno ani wódki prostej, ani słodkiej, ani rumu, wyłączając wypadki, że przejeżdżający obcy trunki dla siebie kupi. Oprócz tego za siedzenie czyli bałamucenie bez przyczyny w karczmie w dni powszednie, a osobliwie w poniedziałki i w dni po świętach następujące, bądź czeladzi dwornej, bądź fabrykantów, bądź najemników, ludzi ze wsi — szynkarz zł 6 od osoby płaci, jeżeli w ślad nie przyśle do kancelaryi oznajmić, że kto bez przyczyny siedzi tam".

У іншых маёнтках было інакш. Мікалай Улашчык быў пісаў пра гэта: „Вінакурні ў феадальна-паншчыннай сістэме былі ўласнасцю памешчыкаў, дзе прыгонныя сяляне працавалі пад прымусам, а да таго ж яны былі і спажыўцамі, абавязанымі купляць гарэлку толькі ў карчмах сваіх памешчыкаў. Памешчыцкае вінакурэнне руйнавала мужыкоў, але і даходы памешчыка станавіліся фіктыўнымі, бо ён тады мусіў плаціць падатак заміж зруйнаваных падданых". Бжастоўскі намагаўся сваіх мужыкоў вырваць з гэтага зачараванага кола...


Касцёл у Ямінах

Землі на поўнач ад Бобры засялялі ў даўні час ваяўнічыя яцвягі і старажытныя хронікі шмат згадваюць пра паходы розных князёў супраць гэтага племя. Іпацьеўскі летапіс ад 1251 года: „Умре князь великий лядьскый Кондратъ, иже бе славенъ и предобръ. В та же лета седе Самовитъ во Мазовши. Посла к нему Данило и Василко, рекша ему, яко: «Добро видилъ еси от нас и изиди с нами на ятвезе». И у Болеслава помочь пояста Суда воеводу и Сигнева, и сняшася во Дорогычине, и поидоша, и преидоша болота, и наидоша на страну ихъ. Идущимъ же имъ и пленящимъ и жгущимъ землю ихъ, прешедшимъ же имъ реку Олегъ, хотевшимъ имъ стати в тесных местехъ, узревъ же князь Данилъ, воспивъ и рече имъ: «О мужи воистии! Не весте ли, яко крестьяномъ пространьство есть крепость, поганым же есть теснота, деряждье обычай есть на брань». И проиде жаку пленяя и прииде на чиста места, сташа станомъ. Ятвязем же одинако нападающимъ на не, и гнаша русь и ляхове по них, и мнози князи ятвязьсции изъбьени быша; и гнаша е до реки Олга, и преста брань. Наутрея же вожемь не ведущимъ, блудящимъ я, два варва убьена быста, третьего жива яша рукама, и приведенъ бысть ко князю Данилови. Рече же ему: «Изведи мя на путь правый, животъ примеши». И вдасть ему руку, изведе его, и предоша реку Лъкъ. Оттуда же князь Данилъ приде ко Визьне и преиде реку Наровь. И многи крестьяны от пленения избависта, и песнь славну пояху има, Богу помогшу има, и придоста со славою на землю свою, наследивши путь отца своего великаго Романа, иже бе изострился на поганыя, яко левъ, имже половци дети страшаху. В лето 6763 (1255). Присла папа послы честны, носяще венець и скыпетрь и коруну, еже наречеться королевьскый санъ, рекый: «Сыну, приими от насъ венечь королевства». Онъ же венець от Бога прия, от церкве святыхъ Апостолъ, и от стола святаго Петра, и от отца своего папы Некентия, и от всих епископовъ своихъ. Некентий бо кльняше техъ хулящимъ веру грецкую правоверную, и хотящу ему сборъ творити о правой вере, о воединеньи церькви. Данило же прия от Бога венець в городе Дорогычине". Апошнія фразы згадваюць пра каранацыю князя Данілы Раманавіча ў Драгічыне, а ранейшыя пра ягоны паход на яцвягаў, цераз Візну. Рэчка Лъкъ гэта цяперашняя рэчка Элк, правы прыток сярэдняга цячэння Бобры. А што гэта за рэчка Олегъ? Гэта тая ж самая рэчка Элк, толькі крыху інакш напісаная. Колішнія летапісцы не зубрылі правіл правапісу і той жа сам аб'ект маглі запісваць па-рознаму. Да таго ж трэба меркаваць, што самі летапісцы ў паходы не хадзілі, толькі запісвалі тое, што ім расказвалі ваякі, якія вярталіся з далёкіх краін. Яны маглі расказваць былі і небыліцы, блытаючы прытым тапаграфічныя назвы; мабыць гэтак цяперашняя рэчка Элк набыла розныя сінонімы.


Мемарыял расстраляным немцамі жыхарам Ямін

Ваенныя паходы не патухлі з каранацыяй князя Данілы Раманавіча. Яны разгараюцца ў розны час у розных месцах. Вось і ў 1914 годзе ўспыхла вялікая вайна ў Еўропе, у рамках якой у лютым 1915 года камандаванне нямецкіх войск павяло наступленне на той жа тэрыторыі, на якой калісь наступаў на яцвягаў слаўны князь Даніла, значыць у басейне нашай ракі Бобры. Ад таго наступлення асталося шмат магіл расійскіх і нямецкіх салдат. Адна з такіх брацкіх магіл, у якой пахаваны прадаўжальнікі наступу на яцвягаў з заходняга напрамку, знаходзіцца на могілках у Ямінах, што ў пяці кіламетрах на захад ад Штабіна.

Перад Ямінамі паказальнік месца пакут, недалёка асфальтоўкі са Штабіна. Там намагільная пліта, крыж і агароджа ды інфармацыя, што ў тым месяцы 22 чэрвеня 1944 года былі расстраляны дваццаць чатыры жыхары навакольных вёсак. У Ямінах, перад могілкамі, што вакол тамашняга касцёла, з мікробуса вылез мужчына. Спытаў я яго пра згаданую нямецкую брацкую магілу. Ён адказаў, што ён не мясцовы, адно толькі апынуўся тут дзеля нарыхтоўкі „хаткі" свайму сябру. З размовы аказалася, што той сябра пражыў трыццаць пяць гадоў і памёр у такім маладым узросце ад гарэлкі; значыць шляхетныя цверазільныя захады пана Бжастоўскага аказаліся, як бы гэта назваў мудры цар Саламон — марнасцю.

Зайшлі мы да месца, дзе іншыя сябры капалі дол пакойніку і адзін з іх ахвотна паказаў мне помнік нямецкім салдатам часу першай сусветнай вайны. Побач яго кідаўся ў вочы роўны шэраг акуратненькіх аднолькавых магіл, такі, якія бываюць на ваенных могілках. Мой субяседнік сказаў, што пахаваны там ахвяры нямецкага расстрэлу, здзейсненага за вёскай, акурат там, куды я крыху раней заходзіў. Мясцовыя партызаны былі застрэлілі аднаго немца і за гэта немцы зрабілі аблаву, захапілі дваццаць чатырох мясцовых жыхароў — бо такая была цана за аднаго немца — і расстралялі іх за вёскай. Хацелі яны публічна расстраляць іх у вёсцы, перад касцёлам, але ксёндз упрасіў іх не рабіць гэтага на вачах іхніх сямейнікаў. Пасля іх перапахавалі на могілкі.

Але на ямінскіх могілках, побач помнікаў нямецкім і мясцовым ахвярам крывавых войнаў, стаіць таксама іншы помнік — помнік мясцовым ахвярам г.зв. аўгустоўскай аблавы, у выніку якой у 1945 годзе прапала каля шасціста жыхароў Аўгустоўскага павета, схопленых савецкімі карнымі органамі, і дагэтуль, праз амаль семдзесят гадоў з таго часу, не ўдалося высветліць, што з імі сталася. Сёння падобнымі метадамі карыстаюцца мексіканскія наркакантрабандысцкія банды і, здаецца, яны нідзе не маюць адабрэння. А ў постсавецкім Саюзе Беларусі і Расіі смершнікі і энкавэдзісты здаюцца быць у вялікай пашане ў тамашніх уладароў...

Пасярэдзіне ямінскіх могілак касцёл. Інфармацыйны стэнд побач яго паведамляе пра завіліны касцельнага будаўніцтва: „Pierwszy kościół w Jaminach zbudowano w 1755 r. na polecenie Teodory z Sołtanów, wdowy po Jerzym Sapiesze, wojewodzie mścisławskim i właścicielu wsi nadbiebrzańskich w Puszczy Jaminy. Był to kościół drewniany pw. św. Mateusza Apostoła. W 1789 r. kościół ten wraz z całym wyposażeniem spłonął. W tym samym roku król Stanisław August nakazał budowę nowego kościoła. Do realizacji tego zamierzenia jednak nie doszło, a przygotowane drewno zostało wykorzystane do budowy kościoła w Suchowoli. Zbudowano natomiast prowizoryczną kaplicę krytą słomą. Po rozebraniu kaplicy zbudowano w 1849 r. kościół istniejący do dnia dzisiejszego. Przy jego budowie wykorzystano materiał z rozebranego kościoła w Augustowie pochodzącego z 1778 r.". Да сакральнага будаўніцтва трэба дадаць яшчэ драўляныя капліцы, узведзеныя ў міжваенны перыяд каля вёсак Ямінскай парафіі і адрамантаваныя ўжо ў новым тысячагоддзі.

# Экуменія і страх


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

— Пятнаццаць гадоў таму ніхто з нас не ўяўляў, што можа быць такое, — пачаў беластоцкі архіепіскап Іакаў, — каб каталіцкі іерарх прыносіў нам у дары міра св. Мікалая.

Мова пра падарак каталіцкага арцыбіскупа Эдварда Азароўскага, які прывёз святы алей у падарак праваслаўнай грамадзе. Міра было перададзена вечарам 19 студзеня г.г. у час экуменічнага набажэнства, якое традыцыйна ўжо адбывалася ў Свята-Духаўскай царкве ў Беластоку. Разам з каталіцкім іерархам на багаслужбу з'явіліся каталіцкія манашкі і вернікі. Прысутнічалі таксама мясцовыя ўлады: віцэ-ваявода Войцех Дзяжгоўскі, прэзідэнт горада Тадэвуш Трускаляскі і яго намеснік Адам Палінскі. Царкоўныя і свецкія ўлады рэгіёна гаварылі пра адно — пра паяднанне.

Ужо на пачатку свайго выступлення арцыбіскуп Эдвард Азароўскі засяродзіўся на асноўнай хрысціянскай каштоўнасці — на пакорнасці. Прапанаваў шукаць супольных момантаў у нашай гісторыі і сучаснасці. „Інакш, — гаварыў ён, — заўсёды будзе ў нас сварка. А зараз гэта нікому не трэба".

Войцех Дзяжгоўскі падняў тэму „горшасці" праваслаўных:

— Не павінна здарыцца, каб з-за веравызнання чалавек быў звольнены з працы. Калі такое ў нас адбываецца, трэба гэта прыкмецiць, навесці праўкі. Усе мы павінны гэтага даглядаць, змагацца з праявамі дыскрымінацыі, каб праваслаўныя не адчувалі сябе горшымі і чужымі...

Тадэвуш Трускаляскі ў сваю чаргу гаварыў пра праваслаўе як каштоўнасць рэгіёна. Пра тое, што разам ствараем дух і капітал месца. Гутарку дапоўніла выступленне архіепіскапа Іакава, які нагадаў пра канфлікты хрысціян і мусульман. Яны, між іншым, датычаць асобы св. Мікалая — святога, якога прызнаюць праваслаўныя і каталікі. Каб пазбегчы перашкод у культе святога, яго мошчы тайком былі перавезены з Мір Лікійскіх (якія апынуліся пад асманскім панаваннем) у мястэчка Бары ў Італіі. Сёння туды падарожнічаюць тысячы паломнікаў з Расіі і Еўропы, што таксама прамаўляе як сімвал аб'яднання хрысціян. Пытанне аб'яднання хрысціян важнае таксама ў кантэксце ўсё больш лацінізаванай Еўропы.

— Вялікай для нас пагрозай з'яўляюцца аборты ды эўтаназія, — дабавіў архіепіскап Іакаў, — не толькі тэрарызм, пра які ўсе сёння гавораць....

Нягледзячы на добрыя і патрэбныя ўсім словы іерархаў і ўладароў, на экуменічную багаслужбу прыйшло няшмат людзей. Прысутнічалі пераважна старэйшыя жанчыны. У гэты раз сабраных сустрэў адзін недахоп:

— Маглі б і нас сёння паміраваць гэтым алеем ад святога Мікалая, — наракала старэйшая жанчына, — а то прыйдзецца пільнаваць, калі ў саборы будзе мірапамазанне...

Пасля багаслужбы, калі мы з сяброўкай вярталіся разам з удзельнікамі экуменічнага набажэнства і размаўлялі *па-свойму,* да нас адвярнулася цётка, якая ў сваю чаргу разам са сваёй каляжанкай захаплялася пачутым у царкве:

— Proszę uważać i głośno nie mówić, — папярэдзіла нас з трывогай у голасе, як да якіх дурнюсенькіх дзевак, якія не ведаюць як сябе паводзіць у вялікім горадзе Беласток, — bo to się nie wszystkim tu podoba. I lepiej nie pokazywać, że jest się odważnym...

**(гак)**




Калісьці ўсе мы былі дзецьмі. І размаўлялі на сваёй мове — мове, на якой ніколі не будуць здольныя размаўляць дарослыя, бо гэтая мова складаецца са шчырасці, надзеі, любові свету да цябе, веры ў дабрыню навакольных. Канешне, у гэтым светаўспрыманні прысутнічаюць і адмоўныя персанажы, якія хочуць, паводле дарослых, з'есці альбо скрасці дзяцей ці адабраць у іх цацкі, але галоўнае — добра сябе паводзіць і ўсё дрэннае цябе абміне.

Мова дзяцей — гэта не толькі асаблівае, не зусім правільнае вымаўленне, гэта дзіцячы светапогляд, які хоць і знікае з гадамі, але тым не менш захоўваецца недзе глыбока ў нашай падсвядомасці, уплываючы на нашыя думкі і ўчынкі. Часам гэтыя думкі і ўчынкі нам не зусім зразумелыя, таму, магчыма, каб разабрацца ў іх, варта паспрабаваць зазірнуць у дзяцінства. Дапаможа ў гэтым сайт „Дзіцячы фальклор", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://folk-by.16mb.com.

Калі цікавы карыстальнік зазірне на сайт, то перад яго вачыма адкрыецца спакойнае па колеравай гаме, але прывабнае выяўленне. На нібыта ільняной тканіне з беларускім арнаментам месціцца выява саламянай птушкі і надпісназва сайта. Таксама там адразу даецца паясненне, што гэтая вэб-старонка насамрэч з'яўляецца курсавым навуковым праектам студэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва Аляксандра Вdespite Варановіча.

„Прывітанне ўсім добрым людзям! — звяртаецца аўтар да наведвальнікаў свайго незвычайнага і арыгінальнага па змесце сайта. — Гэты сайт прысвечаны беларускаму дзіцячаму фальклору... і не толькі. Галоўны змест сайта ўключае каталог з выбранымі тэкстамі, якія былі запісаны пераважна ў XX стагоддзі ў розных кутках нашай радзімы. Тут жа, апроч тэкстаў, вы адшукаеце нотныя запісы некаторых твораў з магчымасцю праслухаць MIDI-файлы".

Акрамя прэзентацыі сайта на галоўнай старонцы месяцца выйсці на рубрыкі сайта, а таксама распавядаецца пра аўдыёдыск „Дзіцячы альбом, першая частка". У гэтую лазерную кружэлку ўвайшлі 27 беларускіх народных песень, запісаных Змітром і Тамашом Сідаровічамі, Тацянай і Адасём Матафонавымі. Ніжэй падаюцца, па ўсім відаць, нядаўна пастаўленыя на сайце апісанні дзіцячых гульняў.

Адметна, што сярод рубрык сайта мноства таго, што будзе карысна не толькі для ўспамінаў аб уласным дзяцінстве, але, магчыма, і пры сённяшнім выхаванні дзяцей. „Гульні", „Дражнілкі", „Забаўлянкі", „Заклічкі і прыгаворы", „Калыханкі" і „Песні" выдатна дапоўняць веды аб тым, як варта размаўляць ці бавіцца з дзецьмі. Не залішнім будзе праслухаць і праглядзець аўдыё- і відэафайлы, што месціцца ў аднайменных рубрыках.

Старонка „Аўтарскія творы" заклікае карыстальнікаў да ўдзелу ў напаўненні сайта. „Цікавая старонка, бо тут размешчаны творы нашых сучасных аўтараў, якія пішуць цудоўныя творы для дзяцей. Сярод іх — «жывыя» п'есы, па якіх ставіліся, ставяцца і будуць ставіцца дзіцячыя спектаклі для беларускіх тэатраў! Шаноўныя аўтары! Калі вы жадаеце апублікаваць свае творы на гэтым сайце, калі-ласка дасылайце!" — піша ўладальнік сайта.

Ну а для тых, хто „па-дарослому" падыходзіць нават да дзіцячых забаў, карысным будзе знаёмства са зместам старонкі „Артыкулы". Там вельмі сур'ёзна і па-навуковаму распавядаецца пра ўвесь дзіцячы фальклор.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара



„А будзе ў нас вольнасць, якой не было..."

# 150 гадоў з дня пачатку паўстання 1863 года

Збройны чын 1863 года разглядаецца пераважна праз міфалагічную прызму савецкай па часе і расійскай па сутнасці гістарыяграфіі. Паўстанне мела найперш характар нацыянальна-вызвольнага руху, змагання з расійскім імперыялізмам, а не палітычным рэжымам цара Аляксандра II. Змаганне супраць царызму ў 1863 годзе не было змаганнем супраць манархічнага спосабу кіравання дзяржавай. У колах інсургентаў, асабліва ў стане „белых", было дастаткова людзей, якія марылі пра адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага ці Рэчы Паспалітай як канстытуцыйнай манархіі. Паўстанне мела перш за ўсё нацыянальна-вызвольны, а пасля ўжо эканамічна-сацыяльны характар.

Кожнаму вызвольнаму руху на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай расійскай і савецкай гістарыяграфіяй прышчэпліваўся ярлык „польскі мяцеж". Украінцы, ці беларусы пры гэтым „не заўважаліся". Такія „навуковыя" працы пісаліся згодна дзяржаўнай дактрыны Масквы, паводле якой беларусы і ўкраінцы мусілі як нацыі „сліцца" з вялікім расійскім народам. Ліцвінскі (беларускі) элемент мацнеў з кожным чынам (1794, 1830, 1863 гг.). Ускосным сведчаннем таму і польская гістарыяграфія. Навуковых прац, прысвечаных паўстанню 1863 г. у ёй меней, чым манаграфій на тэму паўстання 1794 г. Пераважная частка баявых дзеянняў была на тэрыторыі сучаснай Беларусі, а таксама на яе этнічных тэрыторыях. У сваёй „Мужыцкай праўдзе" Каліноўскі яскрава выступае супраць панскага прыгнёту і палітычнай залежнасці ад Польшчы.

Паўстанне не мела такога антыправаслаўнага характару, як сцвярджаюць многія. Перш за ўсё „антыправаслаўе паўстанцаў" звязваюць з асобай Кастуся Каліноўскага. Ён сапраўды выказваўся супраць маскоўскага праваслаўя і быў зацятым апалагетам адраджэння ўніяцтва. Каб зразумець гэта, трэба зазірнуць у кантэкст гістарычнай эпохі. Пасля кароткай канфесійнай адлігі прыйшоў жорсткі рэлігійны ціск. Калі скасавалі ўнію, у храмах былі забаронены казані па-беларуску, знішчаліся шматлікія культурныя каштоўнасці, палілася літургічная і тэалагічная літаратура. Расійскія праваслаўныя цэрквы сталі асяродкамі палітычнай прапаганды імперскай палітыкі Масквы. Праваслаўных жа ўдзельнікаў паўстання, асабліва на Магілёўшчыне, было даволі шмат. Прыкладам, з ліку 56 студэнтаў і навучэнцаў, якіх выключылі з Горы-Горацкіх земляробчага інстытута і землямернай вучэльні за ўдзел у паўстанні, 27 чалавек былі праваслаўнага вызнання.

Вызвольнае паўстанне Каліноўскі і паплечнікі бачылі як адзіны шлях да незалежнасці. Абодва лагеры — „белых" і „чырвоных" былі патрыятычнымі, мелі розніцу ў светаглядзе, але прагнулі такой вольнасці, „якой не было нашым дзядам ды бацькам". Патрэба сённяшняга асэнсавання паўстання 1863 года — глянуць на яго „беларускімі вачамі", але праз светагляд чалавека таго часу.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**


Фота Ю.Дарашкевіч

У суботу 19 студзеня прыйшла трагічная вестка — на сорак трэцім годзе пайшоў з жыцця ў не даканца высветленых абставінах гарадзенскі паэт і журналіст **Юры Гумянюк**. Паводле інфармацыі Юры Гумянюк упаў з 9-га паверха інтэрната.

Юры Гумянюк нарадзіўся ў 1969 годзе ў Гродні. Скончыў Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, аддзяленне паланістыкі. Сябар Таварыства вольных літаратараў, Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра. Аўтар кніг паэзіі: «Водар цела» (1992), «Твар Тутанхамона» (1994), «Рытуал» (1999), «Вуліца тыгровых архідэяў. Вершы 1987—2003» (2003).

Працаваў загадчыкам літаратурнай часткі Гарадзенскага тэатра лялек, карэспандэнтам газеты «Пагоня», друкаваўся ў беластоцкім штомесячніку «Czasopis». Апошнія гады займаўся радыёжурналістыкай, супрацоўнічаў з Польскім Радыё а раней з Беларускім Радыё Рацыя. Сябра рэдакцыі нашага тыднёвіка і беларусаў Беласточчыны. Вечная табе памяць, Юрка.

**Сябры і рэдакцыя „Нівы"**

1 ☞працяг

# Калядаванне ў Гайнаўцы

Хрыстовае Нараджэнне і падтрымліваць нашы традыцыі. Нас радуе таксама публіка, якая сабралася, каб слухаць калядкі і ў нашым выкананні, — сказалі бельскія белгімназісткі Патрыцыя Буркевіч, Марта Варшыцкая і Кася Хмур з «Вянка».

Прыгожа з калядкамі запрэзентаваліся таксама вучні з Комплексу школ у Дубінах, якімі апякуецца матушка Беата Маркевіч.

— Нашыя вучні адчуваюць сувязь з праваслаўным веравызнаннем і беларускай нацыянальнасцю і таму наш калектыў, апрача спявання калядак, выступае з беларускімі песнямі на аглядах і ў час школьных урачыстасцей, а іншыя нашыя вучні гэта становіча ўспрымаюць, — сказала матушка Беата Маркевіч.

Удала запрэзентаваліся таксама прыхадскія хары, калектывы з культурных і адукацыйных установаў ды індывідуальныя спевакі. На прыстойным узроўні спявалі вучнёўскія групы. З традыцыйнымі калядкамі ўдала выступілі вясковыя вакальныя калектывы. Ніна Хворась са Збуча, Ніна Грыгарук з Курашава і Валянціна Пракапюк з Чыжоў, якія выступілі ў вакальным калектыве гуртка Саюза пенсіянераў і інвалідаў з Чыжоў, расказалі, што па нашых вёсках на Гайнаўшчыне яшчэ не загінула калядаванне, хаця колькасць каляднікаў, на жаль, меншае.

Калі конкурсная камісія абвясціла вынікі агляду, аказалася, што сярод дашкольнікаў перамаглі дзеткі з Прадшколля № 1 імя св. Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім і з Прадшколля № 5 у Гайнаўцы, а на трэцім месцы апынуліся дашкольнікі з Прадшколля № 2 у Гайнаўцы і Прадшколля № 9 у Бельску. У катэгорыі вучняў падставовых школ першае месца занялі вучні ПШ № 4 у Бельску, другое месца — вучні з Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы, а на трэцім месцы апынуліся дзеткі з калектыву «Званочкі» ГДК і вучні з калектыву «Вясёлыя ноткі» з Непублічнай школы ў Арэшкаве. З ліку гімназістаў пераможцамі сталі белгімназісткі з калектыву «Вянок» з бельскай «тройкі» і калядніки з Гімназіі № 2 у Бельску, другое месца занялі вучні з Комплексу школ у Дубінах, а трэцяе месца журы прызначыла вучням з Комплексу школ № 2 у Гайнаўцы. Сярод вучняў звышгімназічных школ перамаглі бельскія белліцэісткі з калектыву «Спадчына», а другое месца занялі гайнаўскія белліцэісты са «Знічкі». З ліку прыхадскіх хароў першае месца заняў хор Прачысценскага прыхода ў Бельску, на другім месцы апынуўся маладзёжны хор Свята-Троіцкага прыхода ў Гайнаўцы, а трэцяе месца заняў маладзёжны хор Уваскрэсенскага прыхода ў Сямятычах. У катэгорыі іншых калектываў, у малодшай групе першае месца заняў калектыў «Астэрыя» Дома праваслаўнай культуры ў Бельску, другое месца камісія прызначыла Студыі песні ГДК, а трэцяе месца заняў хор Грамадскай музычнай школы ў Гайнаўцы. Сярод іншых калектываў, у старэйшай групе, пераможцам стаў хор «Рэха пушчы» ГДК, другое месца занялі «Падляшанкі» з Гарадзіска, а трэцяе месца камісія прызначыла жанчынам з вакальнага калектыву з вёскі Чаромхі. Член журы, дыякан Павел Коршак паінфармаваў, што камісія, ацэньваючы каляднікаў, звяртала ўвагу на мастацкі ўзровень спеву, складанасць выконванага рэпертуару, падбор акампанементу, а нават крыху на выгляд каляднікаў і звёздаў, з якімі выступілі. Затое калядоўшчыкі не мусілі адлюстроўваць толькі традыцыі, як робяць у час некаторых аглядаў, але маглі выступіць таксама з сучаснымі калядкамі або новымі аранжыроўкамі даўніх калядак. Для каляднікаў было падрыхтаваных звыш 600 падарункаў з ласункамі, а пераможцам уручаліся ўзнагароды. На калідорах і побач сцэны можна было спаткаць гайнаўскіх белліцэістаў, якія з сябрамі з іншых гайнаўскіх школ — членамі Брацтва праваслаўнай моладзі, што дзейнічае пры Свята-Троіцкім саборы, многа напрацаваліся, каб магло адбыцца ў ГДК вялікае калядаванне. Галоўнымі спонсарамі мерапрыемства былі мясцовыя самаўрады, праваслаўныя прыходы Гайнаўскага і Кляшчэлеўскага дэканатаў, некаторыя прадпрыемствы з Гайнаўкі і індывідуальныя ахвяравальнікі.

# Адгаданка

1. дзяржак з бічом, 2. яркае, асляпляльнае свята, 3. вялікая марская жывёла, 4. тоўсты жалезны прут для выграбання попелу з печы, 5. вялікі літоўскі горад на Нёмане, 6. багаслоўе, 7. правы прыток Проні, 8. гарадскі пасажырскі транспарт на рэйках, 9. насціл з дошак прызначаны для спання, 10. адрас Евы і Адама, 11. горад на Нёмане між Гродням і Коўнам, 12. кофе, 13. антысептычная вадкасць для дэзінфіцыравання скуры, 14. вокіс кальцыю з вапняка, 15. рагавы стрыжань з пушыстымі адросткамі ў птушак, 16. горад Уладзіміра Караткевіча, 17. знаўца стратэгіі, 18. сярэднявечны архітэктурны стыль.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | 2 | 3 | 4 | | | | | | | |
| | | | | | | | 5 | | | | 6 | |
| | | 7 | | | | | | | | | | |
| 8 | | | | | 9 | | | | | | | 10 |
| | | | | | | 11 | 12 | 13 | | | | |
| | 14 | | | 15 | | | | | | | | |
| 16 | | | | | | | 17 | | | | 18 | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм Мао Цзэ-Дуна. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 50 нумара**

Кіт, спорт, лішай, Стыр, рукаў, явар, запой, біла, соль, сядзенне, абутак, Сухі, вош.

Рашэнне: **Калі топішся, то і за брытву схопішся**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 27.01 — 02.02

**(22.03. — 20.04.)** Не абяцай больш чым можаш. Зачыні дзверы перад тымі, хто хоча адняць у цябе каштоўны час ці пакарыстацца тваёй прыхільнасцю. Не бойся рэзка адмовіцца ад такога „сяброўства". Можаш чакаць аддзякі за сваё добрае сэрца. У панядзелак не патрап у нейкую пастку. У сераду не купляй ружжа і не прынось яго дахаты.

**(21.04. — 21.05.)** Не трап пад уплыў ілюзіі ці самападману. Добра заплануй дзеянні на наступны тыдзень. У панядзелак будзь вельмі пільны пры выбары дзелавых партнёраў, можа прыйдзецца з імі доўга працаваць. У сераду вельмі пільнуй дэталяў. Будзь асцярожны пераходзячы каля будынкаў, каб не ўпалі на цябе снег ці ледзяшы.

**(22.05. — 22.06.)** Страта грэбеня абяцае публічнае выяўленне тваіх сакрэтаў, плёткі ці абман. Не хавай благіх паводзін сваіх супрацоўнікаў. У панядзелак магчымыя паводзіны, якіх пасля будзеш шкадаваць. У аўторак будуць людзі, якія схочуць цябе вывесці з раўнавагі або ўнесці карэктывы ў твае планы. У чацвер рэалізуй нават шалёныя задумы.

**(23.06. — 23.07.)** У час поўні Месяца (27.01.) пільнуй кашалька і не дай сябе падгаварыць на нейкі падазроны інтарэс. А ў пары сцеражыся зайздрасці. Магчымыя супольныя праекты з былымі працаўнікамі. Выкарыстай усе сілы і рэзервы, каб здабыць тое, што табе наканавана лёсам. Магчымая страта дакументаў ці дзелавых папер у сераду. Будзь асцярожны з аўтамабілямі ў пятніцу.

**(24.07. — 23.08.)** Не прапусці важнай для твае кар'еры нагоды. Не змагайся з мацнейшымі за сябе. Не „падпадзі" шэфу ці паліцыянту. 27-28.01. чакаюць цябе шалёныя прыгоды з новымі знаёмымі. У час поўні Месяца (27.01.) будзеш усё бачыць у цёмных колерах. Не папраўляй настрою ласункамі!

**(24.08. — 23.09.)** Можаш пачаць любую складаную справу. Шмат што і хто будзе залежаць ад тваёй думкі і рашэнняў. Не слухай чужых угавораў, рабі так, як думаеш. Калі ў сераду знойдзеш гузік, гэта абяцае табе павышэнне і высокую пасаду. У чацвер прыйдзецца табе ўзяць адказнасць за калектыў. У пятніцу атрымаеш доўгачаканую вестку.

**(24.09. — 23.10.)** Адкрыецца перад табою шмат новых магчымасцей. Добра заплануй дзеянні на наступны тыдзень, абмяркуй усе прыёмы. У чацвер прыглядайся да дэталяў, каб чаго не ўпусціць. Займайся грамадскімі справамі. Паправіцца тваё фінансавае становішча. Памагай іншым асабліва ў аўторак, дзякуючы іхняй удзячнасці пабагацееш.

**(24.10. — 22.11.)** Поўня Месяца (27.01.) можа завастрыць канфлікты; пазбягай спрэчкі з шэфам, бо твае нейтральныя заўвагі можа палічыць абразай. Здарэнні, на першы пагляд з табою не звязаныя, могуць прынесці ў тваё жыццё страты і неразбярыху. Можа табе здацца, што твае планы праваляцца, ды ўсё прыйдзе да нормы. Цяпер лепш адмоўся ад публічных выступленняў. Трымай свае сакрэты пры сабе. Не спрачайся ў аўторак. Лепш перанясі важныя справы з панядзелка на іншы дзень.

**(23.11. — 22.12.)** 27-28.01. будзеш накачаны энергіяй. Спадзявайся шматлікіх мілых і радасных падзей, добрых вестак. Магчымыя грошы, ды не траць для іх здароўя і сяброў. Займайся больш сваімі справамі, а не праблемамі іншых. Сераду добра было б разгрузіць, бо дзень шыкуецца канфліктны; лепш займіся здароўем. Чацвер неспакойны, з праблемамі ў кантактаванні.

**(23.12. — 20.01.)** 28-31.01. не гавары партнёру нічога, чаго б пасля не шкадаваў. Не праваронь карысны прафесійнай прапановы. Не растрачь або не згубі большай сумы грошай. Лепш адкладзі на пасля вялікія пакупкі. У сераду не ідзі ў саўну, калі ў цябе праблемы з сэрцам. У чацвер не нарабі памылак на працы.

**(21.01. — 19.02.)** Рэалізуй старыя планы. Пільнуй спраў сваёй кар'еры. Займіся забеспячэннем свайго дому і сябе. Накрываючы стол, першай стаў на яго соль. Пасля ежы відэлец кладзі зубцамі ўніз. У аўторак паплаці рахункі, выпаўні абяцанні і слухай парад разумных людзей.

**(20.02. — 21.03.)** Не сядзі, склаўшы рукі, спадзеючыся на выйгрыш у латарэю. Маеш магчымасць падзарабіць; не зацыкляйся на старых задумах. Добры час для шукаючых працы, здабыцца прыхільнікаў, на якіх пасля можна будзе спадзявацца. У суботу ў месцах, дзе шмат людзей, пільнуйся ад траў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Алег РУДАКОЎ

## 16,5 гадоў існуе Рэгіянальнае грамадскае аб'яднанне „Іркуцкае таварыства Беларускай культуры імя Я. Д. Чэрскага" (ІТБК), і за ўвесь гэты час традыцыя збірацца на Каляды не прыпынялася ні разу!



# Каляды ў Іркуцку

Памятаецца ўжо далёкі 1997 год, калі ўпершыню на Каляды мы сабраліся ў актавай зале школы № 31 мікрараёна Зялёны і сваімі, тады яшчэ сціплымі сіламі правялі гэтае свята. Але вось што дзіўна: з першага разу стыль правядзення Каляд не змяніўся ні разу. Ды і як яму змяніцца: гэта ж абрад! А ён павінен праходзіць традыцыйна!

Схема нашых Каляд была заўсёды адна і тая ж. Спачатку канцэрт нашых творчых калектываў і індывідуальных талентаў (але ўсё па-беларуску!), затым калядны блок з гумарам і традыцыйнымі песнямі, а потым танцы і бяседа (з тостамі і добрымі, зноў жа, традыцыйна беларускімі закускамі).

Ну, вось ужо пачынаючы з 2007 года, з'явілася яшчэ адна выдатная традыцыя.

Да нас на Каляды пачалі прыязджаць з канцэртнай праграмай знакамітыя артысты з Беларусі.

У 2007 годзе — лідар рок-гурту „Новае неба" Кася Камоцкая.

У 2008 годзе — бард і артыст тэатра і кіно Віктар Шалкевіч.

У 2009 годзе — кампазітар і музыка, лідар гурту сярэднявечнай музыкі „Стары Ольса" Зміцер Сасноўскі.

У 2010 годзе — бард, паэт, кампазітар Алесь Камоцкі.

У 2011 годзе — бард, кампазітар, паэтка Тацяна Беланогая.

У 2012 годзе — этна-рок-музыка, кампазітар Зміцер Вайцюшкевіч.

І вось у гэтым годзе, у 2013, нас наведаў легенда беларускага рэпу Аляксандр Памідораў!

Вядома ж, казаць, што нам лёгка даецца запрашэнне знакамітых беларускіх артыстаў у Іркуцк на Каляды, было б не дакладна. Арэнда залы, аплата пералёту з Мінска ў Іркуцк і назад, экскурсіі, паездкі на Байкал і г.д. — гэта ўсё патрабуе значных выдаткаў. І кожны раз асабіста я няўпэўнены, ці змагу знайсці грошы на чарговыя Каляды. Але, азіраючыся назад, ужо пасля правядзення свята, з упэўненасцю можна сказаць: добра, што да нас прыязджаюць такія таленавітыя зоркі беларускай песні.

Бо кожны такі прыезд прыносіць не толькі клопат, але і стварае святочны настрой на некалькі дзён. Зносіны, абмен думкамі, знаёмства іркуцкіх беларусаў з артыстамі з метраполіі, магчымасць параўнання і магчымасць для нас, сібіракоў, адзначыць каларыт кожнага госця — гэта дарагога варта!

Як мінімум яшчэ некалькі месяцаў блукаюць сярод прыбайкальскіх беларусаў згадкі: „А памятаеш, як Памідораў заспяваў песню „Дзень без гарэлкі"?".

Проста выдатна, што на „Калядных сустрэчах" мы можам убачыць часцінку нашай гістарычнай Радзімы! Пагутарыць „на жывую" з таленавітымі суродзічамі з Бацькаўшчыны!

Хочацца падзякаваць усім артыстам з Беларусі за падтрымку нашага беларускага духу тут, у Сібіры! Мы вельмі радыя, што ў гэтыя святочныя дні вы былі з намі! Шкада, што кожная такая сустрэча носіць эксклюзіўны характар, але, мабыць якраз таму, яна і асабліва каштоўная.

Сёлета Каляды прайшлі, як заўсёды, 7 студзеня. Гэтым разам мы сабраліся ў прасторнай зале Абласной філармоніі. Зала была разлічаная на 350 чалавек. Сабралася гледачоў крыху менш за сотню. На жаль, не ўсе змаглі прыйсці нават з нашых актывістаў. Маразы, запланаваныя даўно паездкі, нечаканыя сваякі і госці здалёк і шмат іншых аб'ектыўных і суб'ектыўных перашкод. Што ж, кожны выбірае свае прыярытэты. Але ўсё ж самыя „верныя" беларускім традыцыям актывісты ІТБК і нашыя госці сабраліся традыцыйна разам у гэты дзень. І ні ад каго я не пачуў, што ён пра гэта пашкадаваў. Свята атрымалася выдатнае!

Спачатку выступілі два нашыя іркуцкія фольк-гурты „Ленушка" і „Крывічы". Кожны з ансамбляў праспяваў па дзве традыцыйныя беларускія песні. Вядома ж, яны маглі праспяваць і больш. Тым больш што нашым гледачам іх выступы заўсёды даспадобы. Фальклорны ансамбль „Ленушка" (паводле назвы паўночнай сібірскай ракі Лены, на берагах якой таксама сяліліся беларусы) і ансамбль аўтэнтычнай песні „Крывічы" крыху адрозніваюцца сваімі стылямі. У „Ленушкі" песні аўтарскія і народныя, часам у апрацоўцы, часта пад акампанемент, бадзёрыя і меладычныя. У „Крывічоў" — працяжныя баладныя і абрадавыя, выконваюцца толькі акапэльна, разлічаныя на шматгалоссе, традыцыйна „вясковыя", старадаўнія, але асабліва дарагія „бабуліны" песні, якія гучаць маладымі звонкімі галасамі.



Летась кожны з гэтых ансамбляў, дзякуючы спонсарскай дапамозе Г. В. Істоміна, Д. Л. Жука і В. А. Навумава, выпусціў свой дыск. Іркуцкім гледачам (зрэшты, ужо і за межамі Іркуцкай вобласці, і нават у Беларусі) яны добра вядомыя, бо выступалі са шматлікімі канцэртамі.

І ўсё ж галоўная інтрыга сёлетніх Каляд была наперадзе. Нашыя ансамблі саступілі сцэну госцю з Мінска, легендарнаму беларускаму рэперу і панк-рок-музыку Аляксандру Памідораву.

Інтрыга была яшчэ і ў тым, што, як мне прызнавалася адна іркуцянка, знаёмая з творчасцю нашага госця, было цікава пачуць песні Аляксандра не ў рокавым выкананні, а пад простую гітару.

Спадар Памідораў скарыў усіх гледачоў цудоўным майстэрствам ігры на дванаццаціструннай гітары. А яго аўтарскія песні гарманічна гучалі і без рок-суправаджэння. Праўда, падвяла апаратура. Аляксандру давялося адысці ад мікрафонаў і адключыць ад узмацняльніка гітару. Але акустыка залы дазволіла стварыць добрае гучанне і без электрычнасці, нават дзесьці гучанне было і лепшым, утульнейшым, тым больш было асабліва відаць і чуваць майстэрства віртуоза.

Аляксандр Памідораў на працягу гадзіны выконваў свае песні пад дружнае пляскання, а ў канцы яго выступу, „нечакана" прыйшлі калядоўшчыкі!

І пачалося... Мала таго, што спяваюць вясёлыя калядкі, дык яшчэ і жартуюць. А тут Каза з Ваўком у скокі пайшлі! А Мядзведзь сёлета асабліва здзівіў, як давай „кола" па сцэне круціць, праз галаву куляцца — няйнакш з цырка збег! Ну а Каза не вытрымала, у народ пабегла. Ды ўсё на карысць! Бо Каза ў беларускай міфалогіі — сімвал здароўя і ўрадлівасці! А тут яшчэ Дзед вазьмі і скажы: „А Каза мая дужа чароўная! Калі пагладзіць каму ў торбачку ці сумачку якую, то будуць там у вас грошы цэлы год вадзіцца! А можа ў каго і долары з еўра нават! Ну а каго мая Каза бадне рогам альбо пхне нагой, дык той здароўя на цэлы год прыдбае!".

Ну і што вы думаеце? Народ наш традыцыю памятае і выконвае! Як толькі Каза са сцэны скокнула, усе да яе і пацягнуліся. Сумачкі паказваюць, спінкі пад „рогі" падстаўляюць. А тыя, хто далёка сядзеў, з месцаў паўставалі, рукі працягваюць, толькі б Каза іх зачапіла. А што ж, усім хочацца быць здаровым і багатым у Новым годзе!

Але вось няўдача — „Каза наша ўпала, здохла, прапала!". І вось ужо за справу бярэцца прафесійны Механоша. Уласна прафесіяналізм яго заключаецца ў простым „выбіванні хабару". Пабалакаў на сцэне наш Механоша, жартачкі прамовіў і таксама ў народ са словамі: „Нашай Козачцы нямнога трэба, 2 боханы хлеба, сем печ перапеч, а яшчэ аладкі, каб бокі былі гладкі, а яшчэ таго мала, дайце шматок сала, а хто харошы, хай насыпле грошы!".

Ну як тут адмовіш такому „профі"? Гледачы нашыя шчодра сабраліся (мне потым калядоўшчыкі прызналіся пад сакрэтам), у мех Механошы і цукерак накідалі, і манетак, і нават парачка сотачак-пяцісотачак прамільгнула, і, як заўсёды, нехта паклаў традыцыйна прыгатаванага беларускага сала! Гэта асабіста мяне больш за ўсё парадавала. Жыве традыцыя!

А пакуль па зале Механоша ходзіць, астатнія калядоўшчыкі стараюцца, калядныя песенькі спяваюць. Весела! Добра!

Ну вось, здаецца, усіх Механоша абышоў. Тут Дзед і кажа:

„Не хоча Каза ўставаць — трэба лёкі ёй даць: нацерці бок кійком, падняць батагом. Каза мая вучоная, кіем хрышчоная, прайшла ўсе навукі, ведае розныя штукі. А ну, Каза, уставай, з хаты выхадзі, бяду вынасі. Уцякай хутчэй з гаспадарскіх вачэй! А ў гэтым доме не шкодзіць нікому! От, дзякуй вам, спадарства, за багатыя падарункі. Ну а зараз трэба нашыя Каляды затанчыць. Каб шчасця на Новы год усім нам прыдбаць".

Тут народ на сцэну дружна пайшоў: і стары, і малы! Зноў жа, хто ж шчасця ў новым годзе не жадае? Калядоўшчыкі спявалі, а астатнія дружна ў карагодзе хадзілі. Праўда, не ўсе змаглі ў гэтым дзеянні паўдзельнічаць. Сцэна, хоць і досыць вялікая, але ўсіх не змясціла. Але Дзед супакоіў: „Карагод карысны як для тых, хто танчыў, так і для тых хто назіраў! Так што ўсе шчаслівыя будзем!".

Ну, вось справа і зробленая!

Наперад выйшла Каляда і сказала добрыя пажаданні. Яе слухаюць з асаблівай павагай, бо яна дачка Даждбог-Сонца, і толькі яна можа насіць „Зорку" — сімвал свайго Бацькі.

Калядоўшчыкі праспявалі яшчэ адну песню і пад дружныя апладысменты пайшлі далей „па горадзе калядаваць".

Дарэчы, хтосьці сцвярджаў, што калядоўшчыкі — гэта быццам бы былі пераапранутыя і замаскіраваныя ўдзельнікі ансамбля „Крывічы"?! Не ведаю, не ведаю. Думаю, памыляюцца... Ужо надта ж непадобныя!

А вось Аляксандру Памідораву зноў давялося на сцэну выйсці, каб праспяваць пару песень і атрымаць традыцыйныя падарункі.

Затым свята перамясцілася ў хол. Спачатку ўсе падышлі да сталоў і зладзілі бяседу, з тостамі, віншаваннямі ад актывістаў ІТБК і ад гасцей. Перакусілі, адпачылі. І перайшлі да трэцяй часткі нашых Каляд, да танцаў!

Без гэтага нашыя Каляды ўжо таксама не абыходзяцца. Многія адмыслова чакаюць гэтага моманту. Прычым „Маразуля", „Польку задам", „Марыненскі кракавяк" і да г.п. танчаць з задавальненнем усе, незалежна ад узросту. Толькі ад імя некаторых бабуль 85-гадовая палачанка Антаніна Васільеўна Тошчава (у дзявоцтве Пракапенка) сказала: „Мы тут ужо пасядзім. Паглядзім".

Толькі пасля 15 танцаў народ, прытаміўшыся, пагадзіўся, што час, напэўна, і дадому збірацца. А што ж наш госць? Аляксандр Памідораў трапіў у чэпкія рукі нашых гаспадынь-беларусак. Асаблівае шэфства ўзяла над ім Тамара Мікалаеўна Дзятлава, якая родам з Ляхавіч і якая традыцыйна прыносіць да стала ёю самой прыгатаваныя найсмачнейшыя беларускія стравы. І як нашы дзяўчаты не спрабавалі адарваць Аляксандра і патанчыць з ім, адказ быў адзін: „Я спяваю, але не танцую. Я тут... пастаю".

Вось так, весела і заўзята, прайшлі нашыя Каляды!

Ад імя Абласной Рады ІТБК усім удзельнікам свята велізарны дзякуй за захаванне нашых беларускіх традыцый!

Ну а нашаму госцю з Мінска Аляксандру Памідораву дзякуй удвая, нават утрая!

Па-першае, за прыезд на нашыя Каляды і прывітанне з Беларусі. Па-другое, за цудоўны канцэрт. Ну а па-трэцяе, як нехта заўважыў, Аляксандр прывёз да нас пацяпленне. Падчас яго канцэрту было ўсяго -15°С. Сякота. Бо напярэдадні даходзіла да -40!

Напрыканцы жадаю ўсім членаў ІТБК і нашых сяброў, усіх жыхароў Прыбайкалля і іншых рэгіёнаў Расіі, а таксама чытачоў нашай „Маланкі" з замежных краін павіншаваць з Калядамі і Новым 2013 годам!

Здароўя Вам, дабрабыту і шчырага Кахання!

ISSN 0546-1960